## "СПРАВАВОДЗТВА" ДЛЯ НЯЎРАДАВАЙ АРГАНІЗАЦЫІ

Выканаўчае бюро РГ Асамблеі НДА Беларусі выдала дапаможнік па вядзеньні справаводзтва ў няўрадавых арганізацыях.

У брашуры прадстаўленыя ўзоры дакумэнтаў, якія найчасцей ужываюцца ў дзейнасьці грамадзкіх аб'яднаньняў, а таксама зьмешчаныя камэнтары і практычныя парады па складаньні і афармленьні дакумэнтаў, вядзеньні дакумэнтазвароту, намэнклятуры справаў і працы архіву.

У выданьні выкладзеныя асноўныя патрабаваньні адносна вядзеньня справаводзтва няўрадавай арганізацыяй, што найчасцей прад'яўляюцца органамі юстыцыі. Зьмешчаны поўны тэкст дзяржаўнага стандарту па справаводзтве і дадаткі да яго.

Брашура адрасаваная кіраўнікам, сябрам і сакратарам кіраўнічых і кантрольна-рэвізійных органаў беларускіх няўрадавых арганізацыяў, а таксама іншым асобам, якія займаюцца вядзеньнем справаводзтва ў некамэрцыйных арганізацыях.

Дапаможнік "Справаводзтва" - гэта працяг праекту Асамблеі "Калектыўная абарона няўрадавых арганізацыяў", скіраванага на паляпшэньне прававога забесьпячэньня дзейнасьці НДА краіны.

Атрымаць яго можна, зьвярнуўшыся ў Выканаўчае бюро: (017) 206-59-09, ngo@user.unibel.by




{ © ЧАСОПІС "АСАМБЛЕЯ" }

**Заснавальнік:** Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі
**Галоўны рэдактар:** Сяргей Ёрш
**Рэдкалегія:** Алена Анісім, Вацлаў Арэшка, Алесь Бяляцкі, Ірына Жыхар, Барыс Звоскаў, Сяргей Мацкевіч, Тацяна Пашавалава
**Карэктар** Алесь Кастыка
**Мастацкі рэдактар** Аляксей Чарняеў

**Кантакты:**
А/с 82, 220030, Менск-30, БЕЛАРУСЬ
ngo@user.unibel.by
www.belngo.info

**Наклад** 299 асобнікаў
Распаўсюджваецца бясплатна



**Здымак на вокладцы:** Андрэй Лянкевіч



{ КАЛЁНКА РЭДАКТАРА }

# *Як спыніць "дзікае паляваньне"?*

Панятак "зачыстка", які ў мірны час сустракаецца даволі рэдка, сёлета трывала ўвайшоў у лексыкон грамадзкіх актывістаў Беларусі. І гэта ня дзіўна, бо мы жывем і працуем быццам у прыфрантавой зоне - штодзень чакаем новыя інфармацыйныя зводкі зь імёнамі чарговых ахвяраў "атакі на трэці сэктар"...

У апошнія месяцы сьпіс ліквідаваных арганізацыяў няўхільна павялічваецца. Як правіла, легальнасьць страчваюць самыя буйныя, актыўныя і арганізацыйна моцныя НДА. Відавочна, "зачыстка" ідзе не хаатычна, а сыстэматычна. Можна дапусьціць, што дзесьці ў сэйфах вышэйшых чыноўнікаў ляжыць супэрсакрэтны дакумэнт з расьпісаным сцэнарам падзеяў і з "чорным сьпісам". Лідэры грамадзкага сэктару прыйшлі да высновы: сцэнар гэты распрацаваны не Міністэрствам юстыцыі (яно толькі выконвае пастаўленыя задачы), а "паліттэхнолягамі" і "аналітыкамі" рэжыму, што працуюць у Савеце бясьпекі. Гэты орган, які курыруе працу беларускіх спэцслужбаў і мусіць клапаціцца пра бясьпеку краіны, можа стаяць за сьпінаю чыноўнікаў, якія падпісваюць "сьмяротныя прысуды" НДА.

Улада намагаецца калі ня ўзяць пад свой кантроль грамадзкі сэктар, дык хаця б яго аслабіць, дэзарганізаваць. Прычына сьпешкі, зь якой гэта робіцца, крыецца ў набліжэньні буйных палітычных кампаніяў з адпаведнымі наступствамі...

Але насамрэч ня ўсё так кепска і пэсымістычна, як можа падацца на першы погляд. Жыцьцё працягваецца, няхай для некаторых і жыцьцё пасьля юрыдычнай "сьмерці" (г.зн. ліквідацыі).

**Працяг на стар.2**

# ЗЬМЕСТ

толькі рэспубліканскія, але і невялікія мясцовыя арганізацыі.

Пераважная большасьць удзельнікаў круглага стала былі адзіныя ў тым, што сёлетні наступ уладных структураў на трэці сэктар - гэта не ініцыятыва Мінюста альбо органаў мясцовай улады. Яны толькі выконваюць палітычную замову. А таму не існуе мэханізмаў юрыдычнай абароны НДА ад свавольства ўладаў.

Старшыня ліквідаванага гарадзенскага абласнога грамадзкага аб'яднаньня "Ратуша" **Алесь Мілінкевіч** адзначыў: "Нягледзячы на нашыя няпростыя адносіны зь мясцовай уладай, гэта не яе ініцыятыва. Гэта ініцыятыва зь Менску... Яны склалі сьпісы тых арганізацыяў, якія абавязкова падлягаюць ліквідацыі, а таксама тых, хто мусіць быць максымальна набліжаны да такога стану". Гэта пацьвердзіў і **Ігар Тышкевіч,** старшыня ліквідаванага баранавіцкага грамадзкага аб'яднаньня "Агенцтва рэгіянальнага разьвіцця "Варута": "Нават пасьля афіцыйнай ліквідацыі ў нас з супрацоўнікамі Баранавіцкага выканаўчага камітэту засталіся вельмі цёплыя адносіны". Больш за тое, сумесна зь мясцовымі ўладамі працягвалася ажыцьцяўленьне некаторых праграмаў. **Валянціна Сьвяцкая**, якая прадстаўляла ліквідаванае грамадзкае аб'яднаньне "Беларускі фонд "Касіяпэя", нагадала, што "на судзе Харытон спасылаўся на пратакол, складзены ў Адміністрацыі прэзыдэнта на пасяджэньні замяталінскай камісіі". У ім вядзецца пра тое, што няўрадавыя арганізацыі, нелаяльныя да існуючага рэжыму, падлягаюць ліквідацыі...

На круглым стале была распрацаваная стратэгія салідарных дзеяньняў НДА ў сувязі з кампаніяй юрыдычнай ліквідацыі няўрадавага сэктару, вызначаныя формы і мэтады дзейнасьці юрыдычна ліквідаваных грамадзкіх аб'яднаньняў. Удзельнікі адзначылі, што дэмакратычны трэці сэктар мае дастаткова волі і магчымасьцяў, каб працягваць працу на карысьць беларускаму грамадзтву. Незалежна ад таго, прызнаюць ці не прызнаюць улады іх юрыдычны статус.

**Міхаіл Макрацоў**

# Фэномэн незарэгістраванай арганізацыі

**Андрэй Ягораў**

Падзел грамадзкіх арганізацыяў Беларусі на дзьве вялікія групы - зарэгістраваныя і незарэгістраваныя - шмат у чым абумоўлены дзяржаўнай палітыкай у дачыненьні да трэцяга сэктару. І датычыцца гэта ня толькі (і ня столькі) заканадаўства. Схематычна сытуацыя выглядае так: дзяржава праз усталяваньне прававых нормаў вызначае мяжу дазволенага (недазволенага) з аднаго боку і, як гэта адбываецца ў Беларусі, дадатковую мяжу легальна дазволенага, але фактычна забароненага зь іншага боку. Пасоўваючы гэтую другасную мяжу, улада "рэгулюе" колькасна і сутнасна напаўненьне трэцяга сэктару.

**Тым, хто ўжо нелегальны і забаронены, ня варта баяцца выйсьці зь ценю, страціць легальнасьць, няма сэнсу вагацца ў выбары мэтадаў дзейнасьці. Досьвед апошніх гадоў паказвае, што незарэгістраваныя арганізацыі ў Беларусі могуць эфэктыўна працаваць, заваёўваць аўтарытэт у грамадзтве і рэгулярна "сьвяціцца" ў СМІ.**

Працэдурна ўсё адбываецца наступным чынам. Зарэгістраваная раней арганізацыя *А* па характары сваёй дзейнасьці задавальняла ўладу, яе дзейнасьць лічылася законнай і дазволенай. Праз некаторы час мэты ўлады мяняюцца, і характар дзейнасьці арганізацыі ўжо перастае быць задавальняючым: другасная мяжа пасоўваецца, і арганізацыя *А* (як і іншыя арганізацыі падобнага пляну) ліквідуецца. Заканадаўства трактуецца так, як трэба ўладзе на дадзены момант, і тое, што ёсьць законным для іншых, становіцца незаконным менавіта для арганізацыі *А*.

Праз такую палітыку пытаньне аб рэгістрацыі зьяўляецца другасным. Арганізацыя, якая толькі што ўзьнікла, вырашае найперш пытаньне палітычнай арыентацыі: супярэчыць апошняя "адзіна вернаму", вызначанаму дзяржавай курсу, ці не. Адказ на такое пытаньне звычайна відавочны ў звышпалітызаванай прасторы трэцяга сэктару Беларусі. Калі такая арыентацыя адназначна супярэчыць той самай, "правільнай", то спроба такой рэгістрацыі губляе сэнс. Калі супярэчнасьці не відавочныя (не назіраюцца ў тэксьце статуту), то рэгістрацыя магчымая, але раней ці пазьней такія супярэчнасьці ўсплывуць у дзейнасьці. Калі яны стануць недапушчальнымі для ўлады, у пэўны момант адбудзецца ліквідацыя. Другаснымі зьяўляюцца выпадкі рэгістрацыі арганізацыяў-шырмаў, спробы рэгістрацыі "дзеля прынцыпу" альбо з мэтай рэклямы, і тут яны не разглядаюцца.

З усяго сказанага вышэй можна зрабіць выснову, што існаваньне незарэгістраванай арганізацыі - цалкам натуральная, звычайная зьява для нашай сыстэмы НДА, адпаведны вынік дзяржаўнай палітыкі. Цікавае пытаньне - формы і мэтады дзейнасьці такіх арганізацыяў, плюсы і мінусы незарэгістраванага існаваньня.

Шэраг агульнакраёвых моладзевых арганізацыяў Беларусі праскочылі стадыю рэгістрацыі, цяжкае жыцьцё і барацьбу зь дзяржаўнымі органамі ў зарэгістраваным стане, балючы працэс ліквідацыі, адразу абраўшы іншы шлях.

Аднак, так ці інакш, існуюць прававыя рамкі, што рэглямэнтуюць дазволеныя формы і мэтады дзейнасьці для зарэгістраваных арганізацыяў, адпаведна недазволе-





# "Ліквідацыя ня спыніць нашую працу"

**Буйная кампанія ўладаў па закрыцьці няўрадавых арганізацыяў, відаць, набліжаецца да свайго фінальнага завяршэньня. Амаль усе больш-менш вядомыя ў краіне няўрадавыя арганізацыі перайшлі ў нелегальны стан. Асабліва шчыравалі супрацоўнікі Мінюста ў дачыненьні да рэсурсавых цэнтраў і праваабаронцаў.**

Каму выгадная ліквідацыя NGO і ці дасягнуць улады сваіх мэтаў? Ці атрымаецца такім чынам зьнішчыць ініцыятыву "зьнізу"? З такімі пытаньнямі мы зьвярнуліся да вядомых дзеячоў трэцяга сэктару.

**Анатоль Гурыновіч, старшыня ліквідаванага "Фонду імя братоў Луцкевічаў", Менск**

**- Сп. Анатоль, на ваш погляд, каму выгадная ліквідацыя буйных няўрадавых арганізацыяў?**

- Пытаньне рытарычнае. Гэта, відавочна, палітычная замова, зьвязаная з будучымі выбарамі і наагул з сытуацыяй у краіне. Ніводнаму дыктатару, ніводнай адміністрацыйна-каманднай сыстэме не патрэбная ініцыятыва, якая зыходзіць ад людзей. Паколькі трэці сэктар і ёсьць ініцыятывай людзей, то зразумела, што раней ці пазьней у гэтых абставінах па ім павінны былі нанесьці ўдар. Гэты ўдар і наносіцца. Самыя актыўныя НДА, якія працавалі ў Беларусі, закрываюцца. Таму зразумела, хто замоўца - гэта сыстэма.

**Працяг на стар.6**



**НДА здольныя дзейнічаць і ў цені**

ныя для незарэгістраваных. Закон не дазваляе нелегальным арганізацыям публічна карыстацца сваёй назвай, распаўсюджваць ад свайго імя інфармацыю, мець сваю сымболіку, выступаць арганізатарам масавых мерапрыемстваў і г.д. За кожнае дзеяньне прадугледжана адказнасьць для асобы, бо, як вядома, незарэгістраваная арганізацыя ў прававым сэнсе не існуе (адпаведна, яна ня можа зьяўляцца суб'ектам адказнасьці). Між тым без ажыцьцяўленьня такой дзейнасьці існаваньне арганізацыі ў трэцім сэктары губляе сэнс, таму яна нярэдка сьвядома ідзе на парушэньні. І такая пазыцыя часам прыводзіць да адноснай пасьпяховасьці і эфэктыўнасьці дзейнасьці НДА.

Тым, хто ўжо нелегальны і забаронены, няма чаго баяцца несанкцыянаваных уладамі мерапрыемстваў. Таму пераважная большасьць акцыяў і мерапрыемстваў незарэгістраваных арганізацыяў праходзяць без папярэдніх зваротаў у выканаўчыя камітэты. Існаваць як нелегальная арганізацыя - значыць увесь час вырашаць новыя і новыя праблемы. Напрыклад, праблему распаўсюду інфармацыі ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Але заўсёды можна знайсьці тыя ці іншыя формы легальнага доступу да грамадзтва і нават да ўлады. Падчас правядзеньня кампаніі "Зробім лепш!" было дастаткова кантактаў незарэгістраваных арганізацыяў зь мясцовымі ўладамі. Пры спрыяльнай палітычнай атмасфэры ў краіне кантакты гэтыя маглі б працягвацца і значна пашырацца.

У незарэгістраваных арганізацыяў непазьбежна ўзьнікае і праблема фінансаваньня. Тэарэтычна іх дзейнасьць шмат у чым магла б фінансавацца зь мясцовых крыніцаў. Але гэтаму не спрыяе эканамічная і палітычная сытуацыя ў краіне, калі бізнэс, які яшчэ трымаецца "на паверхні", запалоханы і ўзяты пад кантроль уладнымі структурамі.

У падсумаваньне сказанаму вышэй крыху мэтафарычна адзначым, што так званыя незарэгістраваныя арганізацыі - гэта пабочны прадукт ненатуральных дачыненьняў дзяржавы і грамадзянскай супольнасьці Беларусі. Дзяржава імкнецца выціснуць па-за легальныя межы тое, што само па сабе ад пачатку легальнае і мае права на існаваньне. Фэномэн незарэгістраванай арганізацыі існуе і будзе існаваць, пакуль будзе назірацца няроўнасьць дачыненьняў у сыстэме дзяржава - грамадзянская супольнасьць. Дзяржаўная палітыка прымушае да нелегальнага існаваньня, усё больш і больш штурхаючы грамадзкія аб'яднаньні ў цень, у шэры сэктар грамадзянскай супольнасьці.



Анатоль Гурыновіч будзе дзейнічаць у любых умовах

**- І да якога выніку прывядуць такія дзеяньні?**

- Я ня бачу тут ніякага выйгрышу для ўладаў, гэта іх абсалютная некампэтэнтнасьць. Хтосьці думае, што калі арганізацыю пазбавіць юрыдычнай рэгістрацыі, то нешта зьменіцца. А калі засталіся людзі, калі засталіся мэты і задачы, то што можа зьмяніцца? Нічога! Юрыдычная рэгістрацыя - гэта проста юрыдычная рэгістрацыя. Яна альбо аблягчае жыцьцё, альбо яго ўскладняе. Таму ня думаю, што ў гэтай сытуацыі хтосьці перамог.

**- Якая Вашая асабістая пазыцыя як кіраўніка закрытай арганізацыі?**

- Мэты “Фонду імя братоў Луцкевічаў” засталіся, людзі засталіся, задачы яшчэ ня выкананыя. Значыць, будзем працягваць працу.

**Віктар Карняенка, старшыня ліквідаванага аб’яднаньня “Грамадзянскія ініцыятывы”, Гомель**

- Скарга па факце ліквідацыі нашай арганізацыі днямі мусіць быць перададзеная ў прадстаўніцтва ААН у Беларусі. Ведаеце, гэты дакумэнт павінен грунтавацца на Пакце аб грамадзянскіх і палітычных правах. Пакт, як, дарэчы, і Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, прадугледжвае магчымасьць ліквідацыі арганізацыяў, якія распальваюць рэлігійную варожасьць, займаюцца экстрэмісцкай дзейнасьцю і г.д. Ёсьць пэўны вычарпальны сьпіс. Але там не напісана, што дзяржава мае права закрываць арганізацыі за дужкі, двукосьсі, працяжнікі, недахопы ў пячатках. Усе іншыя падставы, акрамя вызначаных у Канстытуцыі, зьяўляюцца несапраўднымі і парушаюць Пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах.

Нашая скарга - вельмі лякапічны дакумэнт, у якім няма эмоцыяў, а ёсьць факты парушэньняў Пакту ўладамі Беларусі ў дачыненьні да шэрагу грамадзянаў. Сваю пісьмовую нязгоду з рашэньнем аб ліквідацыі пацьвердзілі на сёньняшні дзень больш за сто чалавек, сябраў аб’яднаньня “Грамадзянскія ініцыятывы”.

**- Вы сказалі, што ў дакумэнце няма эмоцыяў. А якія эмоцыі ўзьнікаюць у Вас асабіста ў сувязі з гэтай сытуацыяй?**

- Я ня згодны з тымі, хто лічыць, што закрыцьцё арганізацыяў зьвязана толькі з падрыхтоўкай да выбарчай кампаніі. Калі мы пачалі займацца вырашэньнем сацыяльных праблемаў, да нас узьнікла яшчэ больш прэтэнзіяў, чым калі мы займаліся ўдзелам у палітычных кампаніях (што, дарэчы, прадугледжана беларускім заканадаўствам). Таму я ня згодны, што арганізацыі закрываюцца толькі з-за кампаніі назіраньня за выбарамі. Хаця і гэты момант таксама прысутнічае.



Віктар Карняенка: “Нас ліквідавалі не паводле закону, а насуперак яму!”

Я ўжо неаднойчы казаў: нас ліквідавалі не таму, што ў Беларусі дрэннае заканадаўства. Нас ліквідавалі не паводле закону, а насуперак яму! Жаданьне забараніць грамадзкую дзейнасьць можа мець толькі не зусім адэкватны чалавек. Замест таго, каб вырашаць праблемы насельніцтва, для чаго ўлада і існуе, гэтыя людзі займаюцца забесьпячэньнем сваёй уласнай палітычнай будучыні. Ім здаецца, што калі будуць ліквідаваныя арганізаваныя апанэнты ўлады (а тое, што мы апанэнты ўлады, мы ніколі і не хавалі), ім будзе спакайней жыць.

**- Якія пляны на будучыню Вы маеце?**

- У нядзелю, 2 лістапада, у нас адбыўся ўстаноўчы сход новай арганізацыі. Больш за палову сябраў “Грамадзянскіх ініцыятываў” выступілі з прапановай стварэньня новага грамадзкага аб’яднаньня. Мы ня цешым сябе ілюзіямі, што рэгістрацыя пройдзе лёгка, але мы будзем змагацца за гэтую рэгістрацыю самымі рознымі спосабамі. Новая арганізацыя названая “Грамадзянская альтэрнатыва”, кіраўніком яе абраны Уладзімер Кацора. Мы спадзяемся, што гэтая арганізацыя стане правапераймальнікам аб’яднаньня “Грамадзянскія ініцыятывы”.

**Іна Кулей, старшыня дабрачыннага фонду рэгіянальнага разьвіцьця “Наша Вежа”, Берасьце**

- На маю думку, арганізацыі ліквідуюць таму, што баяцца іх уплыву на грамадзтва. А яшчэ з мэтай напалохаць астатніх, каб “з такімі не супрацоўнічалі”. Мэта - лякалізаваць уплыў грамадзкіх арганізацыяў і стварыць вузкае кола тусоўкі.

Але працэс разьвіцьця спыніць немагчыма. Канечне, ёсьць нейкі адсотак асобаў, якія будуць баяцца, і думаю, што падставы для страху, напрыклад, страціць працу, ёсьць. Але зь іншага боку тыя, хто зрабіў свой выбар, хто адчуў, што ёсьць альтэрнатыва хлусьлівай, заціснутай уладнай сыстэме, ужо назад не павернуць. Тым болей што мы - сьведкі не ліквідацыі арганізацыяў, а іх дэлегалізацыі.

**- Які этап, на Ваш погляд, зараз перажывае беларускі трэці сэктар?**

- Мы вызначылі для сябе, што былі тры пэрыяды разьвіцьця грамадзкай актыўнасьці ў Берасьцейскай вобласьці. Першы - гэта павышэньне колькаснага складу. У сярэдзіне 90-х быў пэрыяд, калі галоўным было адшукаць ініцыятыўных людзей, надаць ім аптымізму, павысіць прафэсіяналізм, аб’яднаць у групы. Другі этап - кааліцыйнае супрацоўніцтва. Арганізацыі знаёміліся паміж сабою, ладзілі круглыя сталы. Дзякуючы гэтаму людзі адчулі сваю сілу. Трэці этап фактычна пачаўся толькі пасьля прэзыдэнцкай кампаніі 2001 году - гэта час сталага,



моцнага трэцяга сэктару, які стаў пашыраць свой уплыў па-за межы ўласнага кола. Мне здаецца, абсалютным адкрыцьцём для ўлады сталася тое, што моцныя і ўплывовыя арганізацыі існуюць ня толькі ў Менску і абласных цэнтрах, але і ў рэгіёнах.

**- Якія адметныя рысы мае няўрадавы рух у Берасьцейскім рэгіёне?**

- Берасьце - горад вайскоўцаў, і гэта не магло не адбіцца на мэнталітэце людзей. Большасьць жыхароў прыехалі сюды з усяго былога Савецкага Саюзу. Мала хто адчувае сябе тутэйшым, мала хто лічыць сябе беларусам. Моладзь з-за блізасьці межаў мае адчуваньне, што “там” жыцьцё цікавейшае, можна туды паехаць, каб сябе рэалізаваць. На мой погляд, актыўнасьць берасьцейцаў і жыхароў рэгіёну павышаецца. Але не за кошт людзей, адданых Беларусі, якія разумеюць яе праблемы і хацелі б працаваць на гэтай глебе. Адбываецца так яшчэ і таму, што Берасьцейшчына - эканамічна дынамічны рэгіён. Людзі проста хацелі б кудысьці прыкласьці сваю актыўнасьць. І нашая задача - ня проста знайсьці гэтых людзей, але зрабіць так, каб яны ставілі перад сабой канкрэтнае пытаньне: “Што я ўкладаю ў гэты край?” Але гэта ўжо больш асьветніцкая праца.

**Гутарыла Ядвіга Мацкевіч**

# “Сытуацыя выгадная Захаду”

А што думаюць пра сытуацыю з закрыцьцём шэрагу недзяржаўных грамадзкіх арганізацыяў прадстаўнікі ўладных структураў і дзяржаўных установаў? Мы прапанавалі ім адказаць на пытаньне: “Каму, на Ваш погляд, выгадны працэс дэлегітымізацыі шэрагу грамадзкіх аб’яднаньняў Беларусі, іх перавод у нелегальную прастору?” І вось якія адказы атрымалі:

**Усевалад Янчэўскі, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу:**



- Працэс, які адбываецца зь некаторымі так званымі грамадзкімі арганізацыямі, выгадны ў першую чаргу Захаду, таму што гэта эканоміць іх грошы. Беларускі Мінюст робіць добрую справу для заходніх падаткаплацельшчыкаў. Чым меней будзе розных фондаў і асамблеяў, тым менш грошай заходніх падаткаплацельшчыкаў будзе ісьці ў кішэні беларускіх апазыцыянэраў. ЗША і Эўразьвяз павінны падзякаваць беларускім уладам. Няхай трацяць свае грошы на сябе, а не на тое, каб рабіць зь беларускіх апазыцыянэраў заможных людзей.

**Леанід Школьнікаў, намесьнік старшыні Рэспубліканскай рады руху “За дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасьць”, сакратар-каардынатар ГА “За Саюз і камуністычную партыю Саюзу”:**

- Ані ад нас, ані ад народнай грамадзкай думкі не хаваецца, што Злучаныя Штаты ў сваіх дачыненьнях зь Беларусьсю кіруюцца жаданьнем зьмяніць палітычную сыстэму нашай краіны і прыбраць яе цэнтральную фігуру - прэзыдэнта. На гэта асыгнуюцца вялікія сродкі. Арганізацыі, якія я прадстаўляю, ставяцца да гэтага вельмі нэгатыўна. Мы асуджаем адкрытае ўмяшаньне ва ўнутраныя справы нашай краіны. Усе каналы, па якіх гэтае ўмяшаньне можа ажыцьцяўляцца, павінны быць перакрытыя. Калі закрыцьцё грамадзкіх арганізацыяў зьвязанае са згаданым перакрыцьцём (а я думаю, што так яно і ёсьць), то мы можам гэта толькі вітаць.

**Роза Турарбекава, паліталяг-міжнароднік, дацэнт катэдры паліталёгіі БДУ:**

- Я, на жаль, не валодаю гэтым пытаньнем. Пасьля закрыцьця Фонду Сораса ўвогуле ня ведаю пра канкрэтныя факты закрыцьця нейкай арганізацыі. Аднак для таго, каб ведаць, чаму закрытая тая ці іншая арганізацыя, трэба зьвяртаць увагу ў першую чаргу не на фармальны бок (Мінюст), а на прычыны.

**Запісаў Зьміцер Дрыгайла**

# “Зачыстка”

**Тое, што адбывалася з грамадзкімі аб’яднаньнямі Беларусі ўвесну-ўлетку 2003 году, назіральнікі трапна назвалі “зачысткай трэцяга сэктару”. Сапраўды, дзяржаўнымі органамі была зьдзейсьненая вялікая кампанія па ліквідацыі структураў грамадзянскай супольнасьці. Адбылася дэлегалізацыя рэгіянальных рэсурсавых цэнтраў і шэрагу ўплывовых грамадзкіх аб’яднаньняў, якія гралі значную ролю ў беларускім грамадзкім жыцьці.**

**Юры Арлоўскі**

## *Органы юстыцыі не спыняюць наступ на структуры трэцяга сэктару*



### АТМАСФЭРА СТРАХУ

На пачатак лістапада судамі прынятыя рашэньні аб ліквідацыі дзесяці арганізацыяў. Назвы іх добра вядомыя грамадзкасьці: Гарадзенскае абласное грамадзкае аб’яднаньне **“Ратуша”**, Гомельскае абласное грамадзкае аб’яднаньне **“Грамадзянскія ініцыятывы”**, баранавіцкае “Агенцтва рэгіянальнага разьвіцьця **“Варута”**, віцебскі “Цэнтар падтрымкі моладзевых ініцыятываў **“Контур”**. Таксама хваля ліквідацыі закранула моладзевыя, праваабарончыя, жаночыя і сацыяльныя арганізацыі: грамадзкае аб’яднаньне **“Моладзевы хрысьціянска-сацыяльны саюз”**, грамадзкае аб’яднаньне “Праваабарончы цэнтар **“Вясна”**, грамадзкае аб’яднаньне **“Прававая дапамога насельніцтву”**, грамадзкае аб’яднаньне **“Фонд імя братоў Луцкевічаў”**, грамадзкае аб’яднаньне **“Жаночы адказ”**, грамадзкае аб’яднаньне **“Беларускі фонд “Касіяпэя”**, Рэчыцкую гарадзкую грамадзкую **арганізацыю ўдзельнікаў ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС**, грамадзкае аб’яднаньне “**Асацыяцыя маладых прадпрымальнікаў**”.

Цяпер судамі рознага ўзроўню разглядаюцца чарговыя справы - пададзеныя іскі аб ліквідацыі шэрагу аб’яднаньняў у Гомельскай вобласьці (зьбольшага гэта партнэры ўжо зьнішчаных “Грамадзянскіх ініцыятываў”): грамадзкага аб’яднаньня “Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў”, Рэспубліканскага дабрачыннага грамадзкага аб’яднаньня “Рука дапамогі”, грамадзкага аб’яднаньня “Асацыяцыя маладых прадпрымальнікаў”.

Але ня варта думаць, што падчас гэтых працэсаў суды даюць нейкую аб’ектыўную ацэнку дзейнасьці арганізацыяў. Відавочна, што яны ў дадзеным выпадку проста выконваюць замову і абавязаныя задавальняць іскі органаў юстыцыі. Нават калі ў ходзе працэсу даказаная неабгрунтаванасьць усіх абвінавачаньняў у адрас арганізацыі, як гэта было ў выпадку з “Праваабарончым цэнтрам “Вясна”, суд усё роўна задавальняе патрабаваньні аб ліквідацыі аб’яднаньня.

Ды, напэўна, зусім ня органы юстыцыі зьяўляюцца сапраўднымі ініцыятарамі “зачысткі”. Па ацэнках кіраўнікоў рэгіянальных рэсурсавых цэнтраў, іскі аб ліквідацыі падаваліся не зь ініцыятывы мясцовых органаў улады, а па замове з “цэнтру” - такім цэнтрам можа быць Савет Бясьпекі, Адміністрацыя прэзыдэнта альбо нейкая іншая закрытая структура. Хутчэй за ўсё, замоўцы пазначылі для органаў юстыцыі найбольш буйныя цэлі - арганізацыі, што мусяць быць ліквідаваныя любым шляхам. Гэта структуры, якія граюць важную ролю ў непалітычных і палітычных перадвыбарчых кампаніях, у назіраньні за выбарамі, найбольш аўтарытэтныя праваабарончыя арганізацыі.

Яшчэ адна мэта акцыі - нагнятаць сярод грамадзкіх актывістаў атмасфэру страху, прымусіць грамадзкія аб’яднаньні дзейнічаць з пастаяннай аглядкай на магчымасьць ліквідацыі. І сапраўды, дзясяткі папярэджаньняў, вынесеных у адрас самых актыўных грамадзкіх аб’яднаньняў краіны, прымушаюць іх карэктаваць сваю дзейнасьць.





### ХТО НЯ З НАМІ...

У апошнія гады нікога не зьдзіўляе той факт, што дзяржаўныя органы краіны неспрыяльна і нават варожа ставяцца да дзейнасьці няўрадавых арганізацыяў. Як трапна адзначыла палітоляг Сьвятлана Навумава, у адносінах да трэцяга сэктару дзяржаўная палітыка даўно кіруецца прынцыпам “хто ня з намі, той супраць нас”. Адпаведным чынам будуюцца і стасункі з грамадзкімі аб’яднаньнямі: яны ўспрымаюцца як крыніца небясьпечнай для ўладаў, непадкантрольнай грамадзянскай актыўнасьці, як варожы да рэжыму элемэнт. Таму і зьяўляюцца перашкоды ў стварэньні новых грамадзкіх аб’яднаньняў, забараняецца дзейнасьць незарэгістраваных арганізацыяў, дзеючыя арганізацыі цкуюцца праверкамі і рэвізіямі, абмяжоўваюцца магчымасьці атрымання фінансаваньня дзейнасьці няўрадавых арганізацыяў. Увогуле ў краіне створаны надзвычай неспрыяльны заканадаўчы клімат для разьвіцьця няўрадавага сэктару.

Прававыя межы дзейнасьці няўрадавых арганізацыяў усё болей і болей звужаюцца. Напрыклад, у красавіку 2003 году набыў моц дэкрэт прэзыдэнта №13 ад 15.04.2003 “Аб некаторых пытаньнях грамадзянскага судаводзтва”. Гэты нарматыўна-прававы акт забараніў прадстаўнікам грамадзкіх арганізацыяў прадстаўляць у судзе інтарэсы фізычных асобаў па грамадзянскіх справах. Фактычна, гэтым дэкрэтам перакрываецца магчымасьць праваабаронцаў выступаць у грамадзянскім судзе ў якасьці прадстаўнікоў асобаў, што сталі ахвярамі парушэньня правоў чалавека - зараз такое права нададзенае толькі адвакатам.

### СПРОБА ЗАМІРЭНЬНЯ

Першай рэакцыяй грамадзкіх актывістаў на скаардынаваную і хуткую акцыю органаў юстыцыі па ліквідацыі ўплывовых NGO быў, натуральна, шок. Пасьля “славутай” перарэгістрацыі ніколі яшчэ ўлады не наносілі такога моцнага ўдару па грамадзкіх аб’яднаньнях. Але ўжо праз некалькі дзён грамадзкія актывісты вырашылі, што ня будуць бязьдзейнічаць. 29 красавіка падчас адмысловай

16 кастрычніка Вярхоўны суд Беларусі прыняў рашэньне пра ліквідацыю грамадзкага аб’яднаньня “Фонд братоў Луцкевічаў”. Падставай для ліквідацыі стаў іск Міністэрства юстыцыі, а прычынамі - неадпаведнасьць фактычнага месцазнаходжаньня аб’яднаньня юрыдычнаму адрасу, парушэньні правілаў вядзеньня справаводзтва (на блянку аб’яднаньня ня быў пазначаны разьліковы рахунак і прозьвішча выканаўцы), неадпаведнасьць пячаткі аб’яднаньня 157-й інструкцыі МУС, а таксама правядзеньне ў 1999 годзе справаздачна-выбарчай канфэрэнцыі, якая была прызнаная Міністэрствам юстыцыі нелегітымнай. Фонд абвінавацілі і ў тым, што большасьць рэгіянальных структураў аб’яднаньня не былі пастаўленыя на ўлік у мясцовых органах выканаўчай улады. Па словах старшыні “Фонду імя братоў Луцкевічаў” Анатоля Гурыновіча, такое рашэньне суду ня стала нечаканасьцю. “Неістотна было, якія дакумэнты мы прадставім, якіх сьведак запросім да ўдзелу ў працэсе - усё адно “праўда” была і ёсьць на баку Мінюста. У цяперашняй сытуацыі па-іншаму немагчыма”, - пракамэнтаваў судовае рашэньне сп. Гурыновіч.

28 кастрычніка Вярхоўны суд Беларусі прыняў рашэньне па іску Міністэрства юстыцыі аб ліквідацыі ГА “Праваабарончы цэнтар “Вясна”. Падчас абвяшчэньня судзьдзёй Кулік рашэньня пра закрыцьцё “Вясны” 8 яе актывістаў на чале з Алесем Бяляцкім у знак пратэсту ўладкаваліся на падлозе і адмовіліся пакідаць будынак. Праз некалькі гадзінаў яны былі дастаўленыя ў Ленінскі РУУС, дзе былі складзеныя пратаколы і прад’яўленае абвінавачаньне паводле арт. 166 КаАП (“Невыкананьне законных патрабаваньняў супрацоўнікаў міліцыі”). 29 кастрычніка суд Ленінскага раёну Менску пакараў спадароў Бяляцкага, Вялічкіна, Жлудку, Колчына, Лемяноўскага, Салаўёва і Стэфановіча штрафам у памеры 5 мінімальных заробкаў, а сп. Лабковіча - 10 мінімальных заробкаў. Апошні патрабаваў вядзеньня працэсу на беларускай мове, але судзьдзя Дз.Жданок яму адмовіў і нават не задаволіў хадайніцтва аб прадастаўленьні перакладчыка.

**На здымку: “Вясна” ў Вярхоўным судзе**


Вясна



www.pbnf.org

11 лістапада судзьдзя Вярхоўнага суду Валянціна Кулік задаволіла іск Міністэрства юстыцыі аб ліквідацыі “Асацыяцыі маладых прадпрымальнікаў”. Падставай для ліквідацыі сталіся парушэньні ў афармленьні юрыдычнага адрасу арганізацыі, якія былі дапушчаныя яшчэ падчас рэгістрацыі аб'яднаньня ў 1999 годзе. Таксама маладыя прадпрымальнікі адмовіліся мяняць назву пасады кіраўніка арганізацыі: згодна са статутам, кіраўніком арганізацыі зьяўляецца яе прэзыдэнт. Чыноўнікі ж настойваюць, што прэзыдэнт у нашай краіне можа быць толькі адзін...

“Асацыяцыя маладых прадпрымальнікаў”, заснаваная ў 1999 годзе, ажыцьцяўляла асьветніцкую дзейнасьць, выдавала бюлетэнь “Кірмаш” і аказвала юрыдычныя кансультацыі ды іншую дапамогу моладзі, занятай у дробным бізнэсе, актыўна ўдзельнічала ў мабілізацыйнай кампаніі напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў 2001 году.

Кіраўнік кантрольна-рэвізійнай камісіі “Асацыяцыі маладых прадпрымальнікаў” Аляксей Янукевіч зьвязвае закрыццё аб'яднаньня менавіта з актыўнасьцю падчас згаданай выбарчай кампаніі: “Гэта звычайная помста ўладаў моладзі, неабыякавай да таго, што робіцца ў краіне, зацікаўленай у палітычным жыцьці. Яны цудоўна разумеюць, наколькі небясьпечнай для дыктатуры будзе заангажаваньне ў палітыку і грамадзкае жыцьцё такой актыўнай і пэрспэктыўнай сацыяльнай групы, як маладыя прадпрымальнікі, дзелавая моладзь. Таму сёньняшнія ўлады спрабуюць разбурыць мост паміж маладымі прадпрымальнікамі і палітычна-актыўнай моладзьдзю”.

прэс-канфэрэнцыі прадстаўнікі аб'яднанняў, якім на той час пагражала закрыццё, і кіраўнікі Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў абвесцілі пра пачатак кампаніі “Наша Салідарнасьць”. Былі агучаныя накірункі гэтай кампаніі: з аднаго боку, забясьпечыць арганізацыям кваліфікаваную юрыдычную дапамогу і грамадзкую падтрымку, зь іншага - паспрабаваць прымусіць улады ўступіць у канструктыўны дыялёг і адклікаць пададзеныя іскі.

Неўзабаве быў прыняты калектыўны зварот амаль двух дзясяткаў грамадзкіх аб'яднанняў краіны да міністра юстыцыі з патрабаваньнем адклікаць пададзеныя іскі і прапановай узяць удзел у грамадзкіх слуханьнях па гэтай праблеме. Яны адбыліся 23 траўня, і на іх выступіў кіраўнік Упраўленьня грамадзкіх аб'яднанняў Міністэрства юстыцыі Міхаіл Сухінін. Па яго ных словах, мы сталі сьведкамі не скаардынаванай акцыі, а толькі выпадковага зьбегу абставінаў...

На час слуханьняў суды прыпынілі судаводзтва па справах аб ліквідацыі грамадзкіх арганізацыяў. Але паказальна тое, якім чынам гэта было зроблена. У адказ на запыт дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў намесьнік міністра юстыцыі Алег Краўцоў паведаміў, што “па ўказаньні міністра юстыцыі Рэспублікі Беларусь судаводзтва па ліквідацыі згаданых грамадзкіх аб'яднанняў у Гомельскім, Берасьцейскім і Гарадзенскім судах прыпынена”. Гэтае выказваньне выразна характарызуе тыя адносіны, якія склаліся паміж судамі і міністрам юстыцыі: міністар загадвае - судзьдзя выконвае. Прычым адказ зь міністэрства быў атрыманы яшчэ да таго, як суды прынялі рашэньне па прыпыненьні справаў!

### БРАЦКАЯ МАГІЛА NGO?

Скончыліся грамадзкія слуханьні. Зьехала дэлегацыя АБСЭ. На час летніх адпачынкаў грамадзкія актывісты мелі пэўнае спадзяваньне, што канвэер ліквідацыяў спынены і канфліктуючыя бакі знайшлі паразуменьне. Але судовыя працэсы аднавіліся. Не спыняючыся на асаблівасцях гэтых справаў, трэба адзначыць прынцыповы момант: згодна зь сёньняшнім тлумачэньнем заканадаўства, іскі аб ліквідацыі могуць быць пададзеныя ўжо пры наяўнасьці яго аднаразовага парушэньня. А калі ў арганізацыі ёсьць яшчэ і папярэджаньне, то над ёй адназначна вісіць пагроза гвалтоўнага закрыцьця.

Кампанія “Наша Салідарнасьць” не спынілася і ў гэты час. Адвакаты і юрысты ГА “Праваабарончы цэнтар “Вясна”, “Незалежнага таварыства прававых дасьледаваньняў”, Асамблеі НДА бралі актыўны ўдзел у працэсах, даказвалі невінаватасьць грамадзкіх аб'яднанняў. Пра якасьць гэтай працы сьведчыць наступнае: суды прызнавалі неабгрунтаванымі частку тых прэтэнзіяў, што прад'яўляліся з боку чыноўнікаў ад юстыцыі. Але арганізацыі ўсё ж былі ліквідаваныя...

Актывісты “Нашай Салідарнасьці” плённа працавалі на інфармацыйным і міжнародным накірунках. Адбыліся прэс-канфэрэнцыі, сустрэчы з прадстаўнікамі дыпляматычнага корпусу, акрэдытаванымі ў Беларусі. Назвы “Ратуша”, “Варута”, “МХСС” прагучалі з трыбуны Кангрэсу ЗША - пра іх было сказана ў выступе кангрэсмэна Крыстафэра Сьміта. Заявы салідарнасьці з “апальнымі” NGO былі выказаныя ня толькі іх беларускімі калегамі, але і дзясяткамі арганізацыяў з усёй Эўропы, шматлікімі міжнароднымі праваабарончымі структурамі. Усе эўрапейскія міждзяржаўныя аб'яднаньні (Арганізацыя па бясьпецы і супрацоўніцтве ў Эўропе, Рада Эўропы, Эўразьвяз) выказвалі сваю занепакоенасьць тым ціскам, які аказвае рэжым на структуры грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі.

24 лістапада судовая калегія па грамадзянскіх справах Вярхоўнага суду Рэспублікі Беларусь адмовіла ў задавальненьні скаргі Гарадзенскага абласнога грамадзкага аб'яднаньня “Ратуша” на рашэньне Гарадзенскага абласнога суду аб ліквідацыі арганізацыі.

Рашэньне абласнога суду аб ліквідацыі “Ратушы” ад 21 жніўня судовая калегія па грамадзянскіх справах у складзе судзьдзяў Шаройка, Бакеноўскай, Яхнавец пакінула бязь зьменаў. Такім чынам, рашэньне аб ліквідацыі набыло законную моц, і больш чым сямімесячнае змаганьне за “Ратушу” скончылася перамогай чыноўнікаў органаў юстыцыі.







Вясна

8 верасьня Менскі гарадзкі суд ліквідаваў грамадзкае аб'яднаньне “Прававая дапамога насельніцтву”. Міністэрства юстыцыі абвінаваціла яго ў шматлікіх парушэньнях Палажэньня аб парадку выдачы і выкарыстаньня ліцэнзіі на права аказаньня юрыдычных паслугаў, а таксама ў парушэньні статуту аб'яднаньня, часткі 2 артыкула 4 Закону “Аб грамадзкіх аб'яднаньнях”, у “падмане рэгіструючага органа пры перарэгістрацыі”. У памяшканьне, дзе праходзіла судовае паседжаньне, пускалі толькі прадстаўнікоў боку адказчыка і істца, перад тым правяраючы, ці ёсьць прозьвішчы ўдзельнікаў “судовага працэсу” ў адпаведным сьпісе. Прадстаўнікі “Прававой дапамогі насельніцтву” адмовіліся ісьці на працэс, фактычна закрыты для прадстаўнікоў грамадзкасьці.

*“Мы прыйдзем на суд толькі разам з грамадзкасьцю, з нашымі кліентамі, для якіх мы працавалі. У залю суду мы будзем заходзіць апошнімі, пасьля таго як увойдуць прадстаўнікі дыпляматычных місіяў, прэсы, інваліды, якім мы дапамагалі, сваякі загінуўшых на Нямізе і ўсе неабыякавыя да лёсу нашай арганізацыі”*, - сказаў **Алег Воўчак,** старшыня ГА “Прававая дапамога насельніцтву”.

13 кастрычніка Вярхоўны суд Беларусі пакінуў у сіле рашэньне Менскага гарадзкога суду, паводле якога была ліквідаваная “Прававая дапамога насельніцтву”. Цяпер сябры аб'яднаньня гавораць, што будуць вымушаныя аказваць прававую дапамогу насельніцтву ва ўласных кватэрах.

Тым ня менш, ціск на няўрадавыя арганізацыі не зьмяншаецца. Недзе ў другой палове лета распачалася другая хваля ліквідацыяў, больш маштабная і нахабная. Расправіўшыся з “МХСС”, “Варутай”, “Грамадзянскімі ініцыятывамі”, улады вырашылі пакараць і тых, хто выказвае салідарнасьць з гэтымі арганізацыямі, хто аказвае ім юрыдычную дапамогу. Дзясяткам грамадзкіх аб'яднанняў былі вынесеныя папярэджаньні, ліквідаваныя “Прававая дапамога насельніцтву” і “Праваабарончы цэнтар “Вясна”, быў пададзены іск на ліквідацыю “Незалежнага таварыства прававых дасьледаваньняў”.

Таксама працягам палітыкі вынішчэньня структураў трэцяга сэктару летам 2003 году сталі масавыя праверкі грамадзкіх аб'яднанняў, падчас якіх органы юстыцыі назапашвалі зьвесткі пра парушэньні. Нельга выключаць, што гэтая інфармацыя будзе скарыстаная ня толькі для кантролю за дзейнасьцю грамадзкіх аб'яднанняў, але і пры падрыхтоўцы новых іскаў аб ліквідацыі.

### ДЗЯРЖАЎНЫ ПРЫЗЫЎ

Ужо вядома, хто можа прыйсьці на зьмену ліквідаваным арганізацыям. 30 ліпеня прэзыдэнтам Беларусі быў падпісаны Указ №335 “Аб рэспубліканскіх дзяржаўна-грамадзкіх аб'яднаньнях”. Ён прадугледжвае стварэньне ў краіне прадзяржаўных арганізацыяў, заснаваных на сяброўстве фізычных асобаў. На іх, маўляў, будзе ўскладзенае выкананьне дзяржаўных рашэньняў у пэўнай сфэры. Так у Беларусі ўтвараецца ўнікальная сытуацыя, калі дзяржава афіцыйна заахвочвае стварэньне GNGO - governmental non-governmental organizations - “дзяржаўных недзяржаўных арганізацыяў”. Такім чынам дзяржава робіць захады па ўзяцьці пад поўны кантроль грамадзтва.

Схема ўжо распрацаваная: зьнешне і па структуры - грамадзкая арганізацыя, быццам бы незалежная і добраахвотная, а на самой справе - псэўдаграмадзкае аб'яднаньне, якое цалкам кантралюецца дзяржавай, не прымае самастойных рашэньняў і зьяўляецца фактычна часткай дзяржаўнага кіраўнічага апарату.

Тыя падзеі, што адбываюцца з грамадзкімі аб'яднаньнямі, ня трэба разглядаць адарвана ад агульнаграмадзкага кантэксту ў краіне. “Зачыстка” ідзе ня толькі ў шэрагах грамадзкіх аб'яднанняў - тое самае адбываецца і зь незалежнай прэсай. Дзяржава агучвае намер усталяваць шчыльны кантроль над інтэрнэт-рэсурсамі. Ва ўсіх навучальных установах (дзяржаўных і недзяржаўных) у абавязковым парадку ўведзены адмысловы курс “Ідэалёгія беларускай дзяржавы”, які ўжо зараз робіцца сродкам для “прамываньня мазгоў” моладзі.

Але каму як не чыноўнікам органаў юстыцыі вядома, што грамадзкую актыўнасьць ня спыніш адміністрацыйным альбо судовым рашэньнем. Алесь Мілінкевіч, старшыня “Ратушы”, і Віктар Карнеенка, старшыня “Грамадзянскіх ініцыятываў”, так і казалі падчас судовых працэсаў па закрыцьці іх аб'яднанняў: “Якое б рашэньне ні прыняў суд, дзейнасьць арганізацыяў будзе працягвацца ў любым выпадку”.

# Прававых падставаў для вынясеньня папярэджаньняў не было

На мяжы закрыцьця апынулася грамадзкае аб'яднаньне "Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў". На працягу ліпеня-жніўня 2003 году аб'яднаньне было тройчы папярэджанае Ўпраўленьнем юстыцыі Менгарвыканкаму.

Першы раз - за ўдзел у судовым працэсе па справе аб ліквідацыі "Ратушы" сябры праўленьня аб'яднаньня Вольгі Смалянкі ў якасьці прадстаўніка грамадзкасьці. Варта адзначыць, што гэта абсалютна не забаронена беларускім заканадаўствам.

Другое папярэджаньне ў адрас арганізацыі вынесена за тое, што старшыня аб'яднаньня Алена Танкачова, а таксама Вольга Смалянка нібыта перашкаджалі чыноўнікам ад юстыцыі правяраць дзейнасьць грамадзкай арганізацыі "Нэкст стоп - Нью Лайф".

Трэцім значным парушэньнем Упраўленьне юстыцыі палічыла публікацыю артыкула "Праверкі грамадзкіх аб'яднаньняў рэгіструючымі органамі" ў часопісе "Асамблея". У папярэджаньні паведамляецца: "Упраўленьнем юстыцыі Менгарвыканкаму ўстаноўлена, што грамадзкае аб'яднаньне "Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў" ажыцьцяўляе дзейнасьць, зьвязаную з працай незарэгістраванага грамадзкага аб'яднаньня "Асацыяцыя недзяржаўных дэмакратычных арганізацыяў", якая мае свой друкаваны орган "Часопіс недзяржаўных арганізацыяў "Асамблея". Гэтыя дзеяньні падпадаюць пад дзеяньне артыкула 16[10] Кодэксу Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэньнях. Акрамя таго, парушаны абзац 6 пункту 3 Дэкрэту прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 студзеня 1999 году №2".

На падставе гэтых папярэджаньняў тое ж Упраўленьне юстыцыі накіравала ў Менскі гарадзкі суд іск аб ліквідацыі арганізацыі. Але працэс па ліквідацыі не распачаты ў сувязі з накіраваньнем арганізацыяй скаргі на пісьмовыя папярэджаньні. Разгляд скаргі грамадзкага аб'яднаньня цягнуўся тыдзень. Толькі 5 лістапада судзьдзя Глухоўская абвесьціла, што пісьмовыя папярэджаньні, вынесеныя "Незалежнаму таварыству прававых дасьледаваньняў", зьяўляюцца "законнымі і абгрунтаванымі". У судовым рашэньні запісана, што ў суду няма прычынаў не давяраць сьведкам з боку істца (Упраўленьня юстыцыі Менгарвыканкаму) і няма прычынаў давяраць сьведкам з боку адказчыка (грамадзкага аб'яднаньня). *"Што б ні казалі і як бы ні ацэньвалі сытуацыю прыватныя асобы, гэта нічога ня значыць для вынясеньня судовага рашэньня. Гэта агульная сытуацыя для ўсіх дзяржаўных органаў,* - заявіла **Алена Танкачова.** - *Наша судовая сыстэма не зьяўляецца незалежнай - яна схільная да адміністрацыйнага ціску з боку выканаўчай улады".*



Праверкі грамадзкіх аб'яднаньняў рэгіструючымі органамі

**Гэты артыкул у "Асамблеі" стаўся падставай для трэцяга папярэджаньня**

На жаль, прынятае рашэньне па скарзе грамадзкага аб'яднаньня фактычна прадказвае зыход справы аб ліквідацыі. Але і сёньня невядома, калі распачнецца гэты працэс. Празь некалькі дзён пасьля абвяшчэньня рашэньня грамадзкае аб'яднаньне падало касацыйную скаргу на гэтае рашэньне. Але Менскі гарадзкі суд усяляк зацягваў вынясеньне рашэньня па справе. Насуперак патрабаваньням заканадаўства пратакол судовага паседжаньня быў падрыхтаваны толькі 28 лістапада. Такім чынам, касацыйная скарга пададзеная без уліку заўвагаў да пратаколу, і на момант здачы нумару ў друк застаецца невядомым, калі адбудзецца разгляд касацыйнай скаргі на рашэньне Менгарсуду.

Тым часам старшыня праўленьня НТПД працягвае сьцьвярджаць, што для вынясеньня папярэджаньняў і прыняцьця адпаведнага судовага рашэньня прававых падставаў няма.

**Алёна Андрэева**

Салідарныя дзеяньні! Негвалтоўны супраціў!

29 кастрычніка 2003 году Менскім гарадзкім судом распачатае слуханьне аб прымусовай ліквідацыі грамадзкага аб'яднаньня "Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў". Мы просім вас выказаць салідарнасьць і накіраваць лісты аб адмене пісьмовых папярэджаньняў грамадзкаму аб'яднаньню "Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў" і спыненьні справы аб ліквідацыі гэтай арганізацыі.

Просім вас накіроўваць лісты на адрас судовай калегіі па грамадзянскіх справах Вярхоўнага суду Рэспублікі Беларусь:

220030
г. Менск, вул. Леніна, д. 28
Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь
Судовая калегія па грамадзянскіх справах
Для далучэньня да справы №3-177 па скарзе
ГА "Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў"
альбо па факсе НТПД: + 375172853999





# "Вясна" ў судзе

**28 кастрычніка Вярхоўны суд Беларусі ліквідаваў "Праваабарончы цэнтар "Вясна". Менавіта такога рашэньня дамагалася Міністэрства юстыцыі, іск якога і стаўся прычынай судовага разбіральніцтва. Прапануем увазе чытачоў "Асамблеі" выступ падчас судовых спрэчак старшыні Рады "Праваабарончага цэнтру "Вясна" Алеся Бяляцкага.**

Высокі суд!

На маю думку, існуюць два ўзроўні ацэнкі іску Міністэрства юстыцыі. Першую, фактычную ацэнку яму далі мае калегі па "Вясьне".

Я хацеў бы зьвярнуць увагу на тую атмасфэру ўзаемаадносінаў Міністэрства юстыцыі і няўрадавых арганізацыяў, якая існуе на сёньняшні дзень. Няўрадавыя арганізацыі неаднаразова прапаноўвалі міністэрству дыялёг. Былі спробы наладзіць нармальныя, дзелавыя кантакты, падчас якіх можна было б высьветліць і ўладзіць спрэчныя моманты. У канцы мінулага году некалькі няўрадавых арганізацыяў выступілі з адкрытым лістом да Міністэрства юстыцыі, дзе выказвалася занепакоенасьць мэтадамі працы і самім падыходам да існаваньня няўрадавых арганізацыяў з боку міністэрства. А тэндэнцыі такія: амаль поўнае прыпыненьне рэгістрацыі няўрадавых арганізацыяў, нечуваны высокі кантроль за справаводзтвам і як вынік - сотні папярэджаньняў за коскі, кропкі і двукосьсі, праблемы з атрыманьнем юрыдычных адрасоў няўрадавымі арганізацыямі.

У выніку летась на Каляды ў нас адбылася сустрэча зь міністрам Галаванавым, дзе мы выказалі занепакоенасьць у тым, што Міністэрства юстыцыі паступова ператвараецца з пасярэдніка паміж уладамі і няўрадавымі арганізацыямі (які павінен улічваць інтарэсы ня толькі ўладаў, але і няўрадавых арганізацыяў таксама) у жандара, прычым далёка ня мудрага, зь якога ўжо за гэтыя коскі і кропкі сьмяяўся і працягвае сьмяяцца ўвесь сьвет. Бо нармальнаму замежнаму грамадзяніну - бяз розьніцы, адкуль ён, з усходу ці з захаду - не растлумачыш, што "Вясна" атрымала папярэджаньне за тое, што на пячатцы слова "Праваабарончы" было напісана з малой літары. Ды і якая розьніца, - падумае нармальны чалавек, - ці ад гэтага праца "Вясны" стане больш ці менш дзейснай? Ці гэта такая сур'ёзная правіна, якая вартая ня вуснай заўвагі, а фактычна афіцыйнага пакараньня арганізацыі? Дарэчы, існаваньне такога папярэджаньня з боку міністэр-



А.Лянкевіч

**Алесь Бяляцкі кажа, што ліквідацыя "Вясны" - клясычны прыклад сёлетняй атакі на трэці сэктар**

ства (гэта мы з вамі чулі падчас працэсу) зьяўляецца адным з камянёў, які навесілі "Вясьне" на шыю, каб патапіць яе.

Але пасьля сустрэчы сытуацыя толькі пагоршылася. Прынамсі дзьве з чатырох няўрадавых арганізацыяў, якія сустракаліся зь міністрам - гэта "Прававая дапамога насельніцтву" і "Вясна" - сёлета атрымалі позвы ў суд, і "Прававая дапамога" ўжо юрыдычна не існуе. А сьпіс актыўных, рэальна існуючых і працуючых няўрадавых арганізацыяў, зьнішчаных міністэрствам ці абласнымі ўпраўленьнямі юстыцыі, няўхільна расьце.

Не дапамаглі адкрытыя звароты некалькіх дзясяткаў НДА да Міністэрства юстыцыі спыніць фактычны разбой. Не дапамог і круглы стол, праведзены ўлетку па пытаньнях узаемаадносінаў няўрадавых арганізацыяў і Міністэрства юстыцыі, а таксама іншых урадавых органаў, якія маюць стасункі зь няўрадавымі арганізацыямі. Дарэчы, на ім прысутнічаў кіраўнік Упраўленьня Міністэрства юстыцыі, начальнік спн. Фішкінай - Сухінін. У выніку арганізацыя вядучай круглага стала Алены Танкачовай "Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў" атрымала тры чорныя меткі - тры папярэджаньні - і фактычна стала ў чаргу на ліквідацыю.




**Першае паседжаньне па справе "Вясны" было сарванае - Вярхоўны суд "замініравалі" невядомыя**

Нездарма сярод актывістаў няўрадавых арганізацыяў такія стасункі міністэрства з НДА атрымалі вядомы з чачэнска-расейскай вайны тэрмін - "зачыстка".

Ужо амаль 10 гадоў таму быў прыняты Закон "Аб няўрадавых арганізацыях", які ўпарадкаваў стасункі паміж NGO і ўладамі. Прычым закон прынялі самі ўлады, каб ведаць, што робіцца ў трэцім сэктары, хто там працуе, якія ёсьць патрэбы. А зараз гэта ўсё бурыцца, нішчыцца, пляжыцца і пляндруецца. І робіць гэта Міністэрства юстыцыі.

Няўрадавыя арганізацыі зноў, як і пры камуністах, заганяюцца ў падпольле, а ўлады бачаць іх не партнэрамі ў грамадзкіх узаемадачыненьнях, а супернікамі і нават ворагамі, якіх неабходна зьнішчыць.

Прыклад "Вясны" тут проста клясычны.

Высокі суд, абвінавачаньні Міністэрства юстыцыі супраць "Вясны" не вытрымліваюць ніякай крытыкі. За апошнія два гады "Вясна" ўмудрылася не атрымаць аніводнага папярэджаньня, дык тады выкарысталі супраць яе Грамадзянскі кодэкс.

Правяраючыя так прачыталі статут у частках, датычных сяброўскіх складак і рэгіянальных арганізацыяў, што хочацца адразу згадаць "Пінскую шляхту", дзе асэсар, кажучы словамі аднаго з герояў п'есы, "чырвонае ў белае - усё перадзелае".

Згадалі папярэджаньні за ўдзел "Вясны" ў выбарчай кампаніі. Добра, калі ўлады так добра яе правялі, а "Вясна" была такая кепская, так парушала заканадаўства... Дык чаму ж тады гэтыя выбары ніхто не прызнаў? Як так здарылася, што ў Беларусі, цытую




**Спадарыня Фішкіна (зьлева) у залі Вярхоўнага суда**








**Юрысты і старшыня "Вясны" (зьлева направа): Валянцін Стэфановіч, Уладзімер Лабковіч, Алесь Бяляцкі**

са справаздачы місіі АБСЭ па назіраньні за выбарамі, "прэзыдэнцкія выбары 2001 году не адпавядалі абавязкам па АБСЭ адносна дэмакратычнасьці выбараў, сфармуляваных у Капэнгагенскім дакумэнце 1990 году, і стандартам Рады Эўропы". У гэтай жа справаздачы напісана, што "на апошнім этапе перадвыбарчага пэрыяду Міністэрства юстыцыі высунула абвінавачаньні ў парушэньні парадку вылучэньня назіральнікаў супраць ПЦ "Вясна", аднаго зь вядучых грамадзкіх аб'яднаньняў "Незалежнага назіраньня". "Вясна" і 7 іншых НДА атрымалі папярэджаньні за такія, быццам бы маючыя месца парушэньні. 8 верасьня, напярэдадні выбараў, на паседжаньні ЦВК, якая разглядала дадзеныя пытаньні, кіраўнік "Вясны" прапанаваў зьняць праблему да вечару гэтага самага дня, але прапанова была адхіленая. У выніку Цэнтральнай выбарчай камісіяй была ануляваная акрэдытацыя каля дзьвюх тысяч назіральнікаў ад "Вясны".

А тое, што Міністэрства юстыцыі пераблытала паралельны падлік галасоў з апытаньнем на выхадзе (экзытпулам) і зрабіла некалькі публічных заяваў на гэты конт, паказаўшы сваю некампэтэнтнасьць? Хто за гэта будзе рабіць вам папярэджаньні, шаноўныя "спэцыялісты"?

Адна з прычынаў закрыцьця "Вясны", па вэрсіі Міністэрства юстыцыі - парушэньне заканадаўства падчас выбараў. А тое, што сябры "Вясны" ў апошнія гады праводзілі назіраньне падчас выбараў у Сэрбіі, Швэцыі, Польшчы, Эстоніі, Славакіі, Азэрбайджане (літаральна зараз), што 6 сябраў "Вясны" былі ў ліку арганізатараў-супэрвайзэраў выбараў у Косаве ў 2001 годзе, што мы маем каштоўны міжнародны досьвед і аўтарытэт у правядзеньні выбараў і назіраньні за выбарамі? Міністэрства юстыцыі робіць выгляд, што не заўважае гэтага.

Праз масавае зьняцьце назіральнікаў ад "Вясны" за дзень да выбараў вылезла кепска прыхаванае жаданьне ўладаў схаваць праўду ад беларускіх грамадзянаў і ад міжнароднай супольнасьці - праўду пра масавыя фальсыфікацыі, пра страшна недасканалае заканадаўства, якое дазваляе маніпуляваць галасамі выбаршчыкаў.

Можа з-за гэтага - з-за будучых парлямэнцкіх выбараў у 2004 годзе і верагоднага рэфэрэндуму аб зьмене Канстытуцыі ў частцы дзеючага тэрміну прэзыдэнцтва, з-за нашых пэрыядычных маніторынгаў па парушэньнях правоў чалавека ў Беларусі, з-за адкрытай крытыкі "Вясною" беларускіх уладаў у дачыненьнях з грамадзянскай супольнасьцю, з СМІ, з рэлігійнымі канфэсіямі, правы якіх парушаюцца, і атрымала міністэрства сацыяльны заказ зьнішчыць "Вясну"? "Вясну", якая дапамагае людзям і гаворыць ім праўду?

Хто аддаў загад зьнішчыць "Вясну"?

Адказваць ня трэба, спн. Фішкіна **[супрацоўніца Мінюста, якая прадстаўляла яго інтарэсы ў судзе - Рэд.]**, бо гэта рытарычнае пытаньне, на якое мы маем адказ.

Вядома ж, крыўдна, што Міністэрства юстыцыі - міністэрства справядлівасьці - выступае сьляпой зброяй у руках, мякка кажучы, нясумленных людзей і чыніць

фактычнае злачынства. Я ўпэўнены, раней ці пазьней мы даведаемся, хто пэрсанальна аддаў такі загад, але гэта не здымае адказнасьці за тое, што зараз творыцца чыноўнікамі міністэрства, пачынаючы ад міністра і сканчваючы Вамі, спадарыня Фішкіна.

Не спыняе ўлады і рэзка нэгатыўная міжнародная рэакцыя.

Беларускія ўлады, у прыватнасьці, Міністэрства юстыцыі, ігнаруюць рэзалюцыю Камітэту па правах чалавека ААН, прынятую ўвесну гэтага году, дзе асобна закранаецца пытаньне прэсынгу ўладамі НДА ў Беларусі; не заўважаюць і рэзалюцыю Рады Эўропы, у якой ад імя краінаў Рады Эўропы выказваецца такая самая заклапочанасьць.

Возьмем толькі апошнія заявы і лісты, якія прыйшлі на імя міністра юстыцыі ці Лукашэнкі. Так, "Эмнэсьці Інтэрнэйшнл", адна з найбольш аўтарытэтных міжнародных праваабарончых арганізацыяў, "надзвычай занепакоеная нядаўнім закрыцьцём некалькіх НДА, заангажаваных у падтрымцы і абароне правоў чалавека ў Беларусі. Закрыцьцё гэтых НДА зьяўляецца адкрытым парушэньнем міжнародных абавязкаў Беларусі ў сфэры правоў чалавека".

У Міністэрства юстыцыі на мінулым тыдні зьвярнулася найвядомейшая швэдзкая арганізацыя "За мір і арбітраж", двойчы ляўрэат Нобэлеўскай прэміі міру. Яна просіць Мінюст адклікаць іск супраць "Вясны", заўважаючы, што "няма і ня можа быць сумневу ў наступным: працэс ліквідацыі "Вясны" палітычна матываваны і зьяўляецца адной з частак шырокамаштабнай кампаніі супраць НДА ў Беларусі. "Праваабарончы цэнтар "Вясна" - адна з найважнейшых і найбольш уплывовых праваабарончых арганізацыяў у Беларусі. Ліквідацыя "Вясны" па палітычных матывах была б вялікай памылкай з доўгатэрміновымі наступствамі, бо грамадзкі сэктар у цэлым і праваабарончыя арганізацыі ў прыватнасьці ёсьць і заўсёды будуць неабходным складнікам любой добраўпарадкаванай краіны".

У межах сваёй кампэтэнцыі пачала дзейнічаць Вярхоўны камісар ААН па правах чалавека і спэцыяльны прадстаўнік генэральнага сакратара ААН па праваабаронцах спадарыня Хіна Джылані, якая сочыць за становішчам беларускіх праваабаронцаў і праваабарончых арганізацыяў.

Урэшце, 23 кастрычніка ў Вене на пасяджэньні Пастаяннай Рады АБСЭ выступіў амбасадар ЗША ў АБСЭ сп. Стэфан Мінікес. "Я заклікаю беларускія ўлады спыніць атаку на НДА і дазволіць ім рабіць свой каштоўны ўнёсак у разьвіцьцё беларускага грамадзтва. Беларусь можа зрабіць першы крок, спыніўшы справу ў адносінах "Вясны", - адзначыў сп. Стэфан Мінікес. - Беларусь ізалюе сябе, і гэта не адпавядае нічыім інтарэсам - ні інтарэсам самой Беларусі, ні інтарэсам любой зь дзяржаваў, чые прадстаўнікі сабраліся за гэтым сталом". Ён адзначыў, што "ў 1990 годзе ў Капэнгагене дзяржавы-ўдзельніцы замацавалі магчымасьць індывідуумаў карыстацца правам асацыяцыяў, уключаючы права ствараць і браць удзел у дзейнасьці НДА, якія дабіваюцца абароны правоў чалавека і фундамэнтальных свабодаў. У Хартыі эўрапейскай бясьпекі, прынятай на саміце ў Стамбуле ў 1999 годзе, дзяржавы-ўдзельніцы зрабілі яшчэ адзін крок, замацаваўшы за няўрадавымі арганізацыямі "права рабіць унёсак у далейшае разьвіцьцё грамадзянскай супольнасьці, павагу да правоў чалавека і фундамэнтальных свабодаў". Атака на трэці сэктар у Беларусі супярэчыць гэтым пагадненьням". Вось так гэты працэс характарызуюць замежныя дыпляматы: "Атака на трэці сэктар"...

Дадам ад сябе, што гэтая атака, калі міністэрства выкарыстоўвае беларускае заканадаўства замест дубіны, супярэчыць і 21-му, і 22-му Міжнароднаму Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, якія падпісала Беларусь.

Але ўлады вырашылі ўзяць на ўзбраеньне вядомы сталінскі прынцып: няма чалавека - няма праблемы. Вось гэтак жа і з арганізацыямі вырашылі: няма арганізацыі - няма праблемы... Але ці так гэта?

Закрыцьцё "Вясны" - гэта не звычайная справа па закрыцьці арганізацыі, якая парушае беларускае заканадаўства ці не працуе і не выконвае свой статут. Мы заканадаўства не парушалі. Мы адкрытыя, мы хочам, каб нас пачулі і прыслухаліся да нашага голасу. Мы ўвесь час працягвалі руку да супрацоўніцтва, у якую нам уціснулі вось гэтую позву. Нашая справа мае палітычны кантэкст, як і закрыцьцё іншых праваабарончых, моладзевых аб'яднаньняў, рэгіянальных рэсурсавых цэнтраў ды іншых няўрадавых арганізацыяў, лік якіх ужо пайшоў на дзясяткі. Самае брыдкае, што Міністэрства юстыцыі выступае паслухмяным выканаўцам гэтага палітычнага забойства грамадзкіх арганізацыяў.

Фактычна, з накіраваньнем гэтага іску ў суд адбылося тое, чаго мы апошнім часам і чакалі. Закрываюць самыя актыўныя, самыя дзейсныя і аўтарытэтныя арганізацыі. Праз гэты іск беларускія ўлады адзначылі актыўную грамадзкую дзейнасьць нашай арганізацыі, нашую прынцыповую пазыцыю ў адносінах да сытуацыі з правамі чалавека ў Беларусі. І зьнішчэньне "Вясны" сёньня - ня столькі праблема самой "Вясны", колькі праблема ўладаў.

Высокі суд, Беларусь, як гэта ні сумна прызнаваць, усё хутчэй і хутчэй зьяжджае ў багну аўтарытарызму і беззаконьня. Іск аб закрыцьці "Вясны" - яшчэ адно пацьверджаньне гэтаму. Закон, на жаль, у нашай дзяржаве значыць усё менш і менш. І сваю непрывабную ролю выконвае тут Міністэрства юстыцыі, якое, наадварот, мусіла б падтрымліваць аўтарытэт і важкасьць беларускага заканадаўства.

**www.spring96.org**





# Як працаваць у экстрэмальных умовах?

**Хваля "зачыстак" грамадзкіх аб'яднаньняў прайшла па ўсёй Беларусі. Каб даведацца, як перажылі яе лідэры НДА, якія пляны на будучае яны маюць, ці зьбіраюцца працаваць у самых неспрыяльных умовах, карэспандэнт "Асамблеі" зьвярнуўся да некаторых зь іх зь некалькімі пытаньнямі.**

*1. Якія плюсы і мінусы Вы бачыце ў незарэгістраванасьці (дэ-юрэ нелегальнасьці) арганізацыяў?*

*2. Што Вы зьбіраецеся рабіць у выпадку юрыдычнай ліквідацыі?*

*3. Якія бачыце пэрспэктывы разьвіцьця Вашай арганізацыі?*

**Марыя Аліева, старшыня зарэгістраванага ГА "Беларуская арганізацыя працоўных жанчын" (Менск):**



1. Плюс у тым, што пасьля таго як прайшлі праз увесь працэс стратэгічнага плянаваньня паўтара гады таму, мы падрыхтаваныя да магчымага накату. Нашая каманда зараз выпраўляе хібы, якія ўсё ж такі маюць месца ў справаводзтве і іншых момантах нашай дзейнасьці.

2. Будзем працаваць, не адступаючы ні на крок ад стратэгічнага пляну.

3. Мы як разьвіваліся, так і разьвіваемся надалей. Нашая арганізацыя структурная. Зараз працягваецца праца ў тым ліку і па пашырэньні арганізацыі. І мы ня спынімся. Што да трэцяга сэктару, то ён будзе працаваць і разьвівацца. Думаю, калі працаваць салідарна, дапамагаючы адно аднаму, то ўсё будзе добра.

**Віктар Андрэеў, ліквідаванае ГА "Цэнтар імя Філона Кміты" (Ворша):**

1. Я нават ня бачу мінусаў! Ня ведаю, ці можна лічыць мінусам тое, што афіцыйна мы ня можам сказаць, хто мы. Але пра гэта мы пішам і не баімся.



3. На маю думку, пэрспэктывы вельмі добрыя, таму што пасьля перарэгістрацыі 1999 году мы сталі значна болей працаваць. Утварыўся калектыў прафэсіяналаў, якія робяць тое, чаго не маглі б рабіць, маючы рэгістрацыю.

**Людміла Бяліцкая, старшыня незарэгістраванай ініцыятыўнай групы па стварэньні клюбу "Спадкаемцы" (Віцебск):**



1. Галоўны плюс - I'm free, I'm free and at last I'm free: я свабодная, свабодная, нарэшце свабодная! Мы свабодныя! А мінусы? Толькі аднойчы за ўвесь час нашай дзейнасьці адна ненармальная выкладчыца запыталася пра нашую рэгістрацыю, калі мы арганізоўвалі экскурсію. У адказ на гэта мы проста сыйшлі - занадта многа ахвотных паўдзельнічаць у экскурсіях, якія мы арганізоўваем. Так што мінусаў я ня бачу.

3. Мы зробім сэрыю фільмаў і выдадзім кнігу "Вандроўкі па Віцебску", таксама арганізуем міжнародную экскурсію "Віцебскі сьлед у Маскве".



**Вольга Кузьміч, старшыня ліквідаванага ў 2001 г. "Задзіночаньня беларускіх студэнтаў" (Менск):**

1. Галоўны плюс у нашай сытуацыі - спыненьне ўсялякіх стасункаў зь Міністэрствам юстыцыі. Апошні год нашай дзейнасьці праваабарончая камісія напалову была занятая тым, што кожны дзень адпісвала розныя цыдулкі Мінюсту. Калі нас ліквідавалі, мы самі сябе павіншавалі: "Нарэшце гэта скончылася". У Мінюста больш няма афіцыйнай прычыны зьвяртацца да нас і неяк на нас ціснуць. Мінус, які адсюль, у прынцыпе, вынікае - гэта немагчымасьць шырокага асьвятленьня дзейнасьці ЗБС у прэсе. Калі раней пра нас рэгулярна пісалі, то цяпер нам даводзіцца пераглядаць нашую палітыку ў дачыненьні да прэсы. Адсутнасьць рэгістрацыі дазваляе нам працаваць наўпрост з нашымі мэтавымі групамі, і нішто не замінае нам выконваць свае мэты і задачы. Наша мэтавая група - студэнты, а іх абсалютна не цікавіць, ці зарэгістраваныя мы. Найбольш вядомая зарэгістраваная арганізацыя цяпер адна - БРСМ, таму зацікаўленасьць у студэнтаў выклікае зарэгістраванасьць, а не яе адсутнасьць.

3. Мне падаецца, што трэцяму сэктару самы час пераходзіць на нейкі іншы ўзровень працы. Зараз ня варта трымацца за зарэгістраванасьць, бо рана ці позна ўсім "непажаданым" скасуюць рэгістрацыю. Праца без рэгістрацыі адкрывае большыя пэрспэктывы, можна будаваць сваю дзейнасьць незалежна ад таго, што думаюць улады. Нам усім трэба працаваць, не зьвяртаючы ўвагі на ўлады. Мне падаецца, што гэта іх будзе больш раздражняць.



**Яраслаў Манцэвіч, старшыня зарэгістраванага Моладзевага грамадзкага аб'яднаньня "Верас" (Віцебск):**

1. Што датычыцца плюсаў працы ў зарэгістраваным стане, то іх даволі шмат. І большасьць зь іх можна абагульніць у адну фармулёўку - праваздольнасьць. Незарэгістраваная арганізацыя ня мае магчымасьці выступаць ад свайго імя ў прэсе, супрацоўнічаць зь дзяржаўнымі органамі, праводзіць мерапрыемствы ў навучальных установах, прадстаўляць інтарэсы сваіх сяброў (у тым ліку ў судах) і г.д. Без рэгістрацыі немагчыма выконваць базавыя функцыі арганізацыі. Да таго ж, дзейнасьць у межах незарэгістраванай НДА ёсьць правапарушэньнем, якое караецца штрафам (ад 165 000 рублёў і болей) ці нават арыштам. Сапраўдны лідэр не павінен ставіць пад пагрозу актывістаў сваёй арганізацыі. Яшчэ адным аргумэнтам на карысьць легальнай працы зьяўляецца тое, што многія буйныя заходнія спонсары працуюць выключна з зарэгістраванымі НДА. Калі арганізацыя жадае дзейнічаць сур'ёзна, яна павінна мець стабільнае фінансаваньне. А фандрэйзынг нашмат больш эфэктыўны, калі НДА мае пасьведчаньне аб рэгістрацыі. Мінусаў жа ў працы ў зарэгістраваным стане мы ня бачым, бо яна "надае" правы, а не забірае.

2. У першую чаргу скажу, што мы робім усё магчымае, каб пазьбегнуць небясьпекі ліквідацыі. У МГА "Верас" належным чынам вядзецца справаводства, бухгальтарскі ўлік, мы старанна выконваем усе, часам абсурдныя, патрабаваньні заканадаўства. Тым ня менш мы, вядома ж, маем плян дзеяньняў на выпадак, калі ўзьнікне пэрспэктыва закрыцьця нашай арганізацыі. На сёньняшні дзень найбольш простым шляхам застацца "на паверхні" пасьля ліквідацыі зьяўляецца існаваньне арганізацыі ў выглядзе фонду. Хаця гэтая арганізацыйна-прававая форма не адлюстроўвае цалкам структуру грамадзкага аб'яднаньня, яна, тым ня менш, прываблівае прастатой рэгістрацыі і далейшага існаваньня. Аднак, на нашую думку, варта ў любым выпадку імкнуцца зарэгістравацца зноў як грамадзкае аб'яднаньне. Што мы і будзем рабіць.

3. Зараз я бачу вялікія пэрспэктывы для МГА "Верас", і гэта не самалюбаваньне. У апошнія месяцы мы шмат працуем. Так супала, што ў нас паралельна ажыцьцяўляецца некалькі праектаў, і таму сябры арганізацыі з упэўненасьцю глядзяць у будучыню. Гэтай восеньню некалькі нашых актывістаў зьехалі на вучобу ў Менск





(хто па першую вышэйшую адукацыю, хто ў асьпірантуру), але мы не сумуем. Хутка чакаем новы прыток валянтэраў. А ў студзені плянуем запрасіць да сябе лідэраў некаторых моладзевых НДА Беларусі і на месцы пазнаёміць з нашай працай.

Што датычыцца пэрспэктываў развіцьця ўсяго беларускага трэцяга сэктару, то яны мне таксама падаюцца шматабяцальнымі. Хаця зараз НДА ў нашай краіне ня дужа актыўныя, але я спадзяюся, што сытуацыя кардынальна зьменіцца ў наступным годзе. Як паказвае жыцьцё, напярэдадні важных палітычных падзеяў (да якіх, натуральна, можна аднесьці і выбары ў Палату прадстаўнікоў), НДА, нават не заангажаваныя ў палітыку, рэзка актывізуюць сваю дзейнасьць. Будзем на гэта спадзявацца.

**Язэп Палубятка, незарэгістраваны альянс "Дэмакратычнае Панямоньне" (Масты):**

1. Мінусы такія: незарэгістраваная арганізацыя застаецца ў закансэрваваным выглядзе, яна можа нейкім чынам паўплываць на некаторыя рэчы, але, на маю думку, ня можа нармальна разьвівацца. У нас гэта бачна па мясцовым аддзяленьні фонду "Дзецям Чарнобыля", арганізацыям "Маладая Грамада" і "Малады Фронт", якія актыўна дзейнічаюць, але ім не даюць рэгістрацыі. Яны дзейнічаюць усё ж такі падпольна. Акцыі, якія ладзяцца, не знаходзяць падтрымкі ва ўладных структурах, бо іх арганізатары - незарэгістраваныя. Плюсы: тое, што дзейнасьць усё ж такі ёсьць, людзі вучацца працаваць у экстрэмальных умовах. Так выхоўваюцца прафэсіяналы, якія ведаюць, як працаваць у экстрэмальнай сытуацыі.

3. Пачынаючы ад прэзыдэнцкіх выбараў, на грамадзкія арганізацыі быў нейкі накат, і натуральна, што яны нейкі час не былі надта актыўнымі. На сёньняшні дзень арганізацыі, якія ўваходзяць у альянс "Дэмакратычнае Панямоньне", вельмі добра, скаардынавана працуюць, рыхтуецца некалькі праектаў, накіраваных на паляпшэньне грамадзкай дзейнасьці. Спадзяемся, што праекты будуць падтрыманыя. На маю думку, сытуацыя ў нас даволі добрая, і мы глядзім у будучыню з аптымізмам. Калі мы ня будзем працаваць, нашую нішу зоймуць іншыя.

**Сяржук Салаш, каардынатар грамадзкай ініцыятывы "За чысты Барысаў", старшыня Цэнтру "Скрыжаваньне" (Барысаў):**



1.Працаваць ва ўмовах амаль цалкам кантраляванага грамадзтва складана любым арганізацыям, непадкантрольным уладам, як зарэгістраваным, так і незарэгістраваным. На прыкладзе гораду Барысава магу сказаць, што дамовіцца з гарадзкой вэртыкальлю па пытаньнях нейкіх супольных імпрэзаў амаль немагчыма, незалежна ад таго, зарэгістраваны ты ці не. Апошнім часам нават мясцоваму таварыству інвалідаў адмаўляюць у даверы. Прадстаўнікам мясцовай зарэгістраванай суполкі БАЖ некалькі разоў адмаўлялі ў ажыцьцяўленьні абсалютна бяскрыўдных культурніцкіх праектаў. Што тут казаць, калі чыноўнік, адказны за ідэалягічную працу ў горадзе, мае нахабства выклікаць "на дыван" у свой кабінэт каталіцкага сьвятара за прадастаўленьне мясцоваму клюбу інтэлігенцыі памяшканьня касьцёла для сустрэчы з мастаком Алесем Марачкіным і дырэктарам забароненага менскага ліцэю Ўладзімерам Коласам. На гэта трэба менш зважаць, а рабіць сваю справу: ладзіць кампаніі, весьці тлумачальную працу, вучобу. Незарэгістраваныя арганізацыі ва ўмовах Барысава, напэўна, губляюць нейкі адсотак даверу сярод людзей, але кампэнсуюць яго сваёй значнай актыўнасьцю. Часам важна ня тое, што нейкая арганізацыя зарэгістраваная ці не зарэгістраваная, а тое, якія ідэі і ідэалы яна нясе ў грамадства. Грамадзкая ініцыятыва "За чысты Барысаў", якую я рэпрэзэнтую, не сутыкалася з праблемай недаверу ў людзей. Якраз наадварот. Што датычыцца ўзаемадзеяньня з уладнымі структурамі, ня кажучы ўжо пра прысутнасьць у інфармацыйным полі Барысава, то нават гэтыя пытаньні вырашаюцца. Перад цэнтрам "Скрыжаваньне" стаяць іншыя мэты: ня масавасьць, а якасьць. Цэнтар закліканы кшталтаваць кадры, перадусім маладыя, якія ў пэрспэктыве будуць здольныя распачаць свае ўласныя праекты. Можна сказаць, што "Скрыжаваньне" выхоўвае маладых лідэраў.

3.Мяркую, што "Скрыжаваньне" будзе і надалей займацца працай з пэрспэктыўнай моладзьдзю. А грамадзкая ініцыятыва "За чысты Барысаў", спадзяюся, перарасьце ў шырокі гарадзкі рух ня толькі за горад, чысты ад сьмецьця, наркаманіі і карупцыі, але і за

рэальнае напаўненьне такога тэрміну, як "мясцовае самакіраваньне". Што датычыцца пэрспэктываў разьвіцьця трэцяга сэктару ўвогуле, то, як мне падаецца, час пошуку сваіх грамадзкіх дзялянак мінае. Кожная з арганізацыяў нарэшце пачала займацца сваёй справай - хто лепш, хто горш. У Барысаве ёсьць добрыя праваабарончыя, моладзевыя, скаўцкія, спартовыя, адукацыйныя, журналісцкія арганізацыі, прафзьвязы, структуры радыкальнага супрацiву (калі так можна акрэсьліць). Яшчэ б зьвярнуць крыху болып увагі на супрацу, і тады ўжо можна выходзіць на больш высокую ступень разьвіцьця.


А.Дзянкевіч

**Алена Танкачова, старшыня праўленьня дэ-факта (на момант написаньня) ліквідаванага ГА "Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў" (Менск):**

1, 2. Паколькі мы юрысты, то з павагай ставімся да закону і прызвычаіліся дзейнічаць у межах устаноўленай заканадаўствам гульні. У дадзеным выпадку дзяржава прапануе гульню бяз правілаў. Нам як юрыстам, напэўна, будзе цяжкавата працаваць, улічваючы тое, што нас пасунулі з прававога поля. Гэта з аднога боку. Зь іншага - я перакананая, што ў нас будуць развязаныя рукі, і мы зможам больш актыўна, не азіраючыся на тое, што нам скажа Міністэрства юстыцыі, рабіць тую працу, якую лічым неабходнай.

3. Пэрспэктывы разьвіцьця "Незалежнага таварыства прававых дасьледаваньняў" для мяне відавочныя. У траўні мы правялі сэсію стратэгічнага плянаваньня для нашай арганізацыі. На бліжэйшыя 10-15 гадоў мы вызначылі для сябе стратэгічныя накірункі дзейнасьці, якіх мы будзем прытрымлівацца, незалежна ад таго, ці будзем мы зарэгістраваныя, ці не. Таму пэрспэктывы цудоўныя. Мы пашырым сфэру нашай дзейнасьці, апрача свабоды асацыяцыі будзем займацца доступам да правасудзьдзя, незалежнасьцю судовай галіны ўлады. Што да трэцяга сэктару, то, на маю думку, галоўная яго мэта цяпер - навучыцца дакладна плянаваць сваю дзейнасьць, зыходзячы з доўгатэрміновага бачаньня арганізацыяў. Зараз трэба зрабіць упор на тое, каб навучыцца мысьліць праз сыстэму стратэгічнага плянаваньня, і тады, незалежна ад паводзінаў уладаў, у трэцяга сэктару будуць усе магчымасьці для таго, каб рабіць сваю працу.

**Алесь Чыгір, старшыня незарэгістраванай грамадзкай ініцыятывы "Свая справа" (Бабруйск):**



1. Варта адзначыць, што працаваць у незарэгістраваным стане нас вымушаюць улады. Дзьве спробы зарэгістравацца не былі ўспрынятыя ўладамі. Нашая незарэгістраванасьць адбіваецца толькі на працы зь дзяржаўнымі структурамі. Што датычыцца працы зь людзьмі, то нам гэта не замінае. Мы праводзім адукацыйныя мерапрыемствы, працуем з інвалідамі, з творчай інтэлігенцыяй, з настаўнікамі. І ніхто з гэтых людзей не пытаўся пра нашую рэгістрацыю.

3. На маю думку, трэці сэктар сёньня павінен больш актыўна ісьці ў палітыку. Таму што няўрадавы сэктар можа нармальна існаваць у дэмакратычнай краіне, дзе ўжо пабудавана ці бесьперашкодна будуецца грамадзянская супольнасьць. Каб гэтую грамадзянскую супольнасьць будаваць, неабходныя нейкія захады зьверху. Калі зьменіцца палітычнае становішча ў нашай краіне, гэта адпаведна дасьць штуршок разьвіцьцю трэцяга сэктару і грамадзянскай супольнасьці ў цэлым. Вось тады мы зарэгіструемся і будзем працаваць зарэгістраванымі.

**Запісала Алёна Андрэева**





# Міжнародная супольнасьць выступае ў абарону трэцяга сэктару Беларусі

Рэпрэсіі супраць грамадзянскай супольнасьці нашай краіны набылі вялікі рэзананс у сьвеце. Дзясяткі праваабарончых арганізацыяў выказалі свой пратэст супраць захадаў уладаў Беларусі па закрыцьці найбольш актыўных і ўплывовых НДА. У сваіх заявах яны патрабуюць неадкладна спыніць перасьлед беларускага трэцяга сэктару.

### ПРЭЗЫДЭНТА БЕЛАРУСІ ЗАКЛІКАЮЦЬ ВЫКАНАЦЬ РЭЗАЛЮЦЫЮ ААН

За "Вясну" і іншыя беларускія НДА заступіліся актывісты праваабарончага руху краінаў СНД. 8 кастрычніка яны выступілі з "Заявай пра становішча праваабаронцаў у Беларусі". Заява адрасаваная ў Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека, Арганізацыю па бясьпецы і супрацоўніцтве ў Эўропе, Прадстаўніку генэральнага сакратара ААН па праваабаронцах, у Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь, прэзыдэнту Беларусі, міністру юстыцыі.

"Мы, актывісты праваабарончага руху, з занепакоенасьцю адзначаем, што ў 2003 годзе Міністэрства юстыцыі Беларусі ініцыявала працэс ліквідацыі шэрагу няўрадавых арганізацыяў, - гаворыцца ў дакумэнце. - На нашую думку, практыка закрыцьця і забароны няўрадавых арганізацыяў перашкаджае свабоднаму ажыцьцяўленьню праваабарончай дзейнасьці, ствярае ўмовы, якія спрыяюць парушэньню правоў чалавека.

У сувязі з вышэйсказаным мы:

- зьвяртаем увагу ААН і АБСЭ на становішча праваабаронцаў у Беларусі і просім улічыць гэтыя абставіны ў працэсе разгляду пытаньняў, датычных Беларусі;
- заклікаем Прэзыдэнта і Ўрад Беларусі ў выкананьне рэзалюцыі Камісіі па правах чалавека ААН неадкладна запрасіць у Беларусь прадстаўніка Генэральнага сакратара ААН па пытаньнях абароны правоў чалавека спадарыню Хіну Джылані".

Пад дакумэнтам паставілі подпісы кіраўнікі і сябры амаль сарака арганізацыяў з Украіны, Польшчы, Расеі, Кіргізіі, Грузіі, Таджыкістану, Азэрбайджану, Армэніі, Узбэкістану, Казахстану, Малдовы і Беларусі.

### ВЯЛІКАЯ ПАМЫЛКА БЕЛАРУСКІХ УЛАДАЎ

У абарону ПЦ "Вясна" выступіла адна з найстарэйшых швэдзкіх арганізацыяў - "Svenska Freds" ("Швэдзкая арганізацыя за мір і арбітраж"). 20 кастрычніка 2003 г. яе прэзыдэнт Фрыда Блом накіравала ліст міністру юстыцыі Беларусі: "Мы хацелі б выказаць глыбокую занепакоенасьць адносна іску супраць грамадскага аб'яднаньня "Праваабарончы Цэнтар "Вясна" <...> Няма і ня можа быць сумневу, што працэс ліквідацыі "Вясны" палітычна матываваны і зьяўляецца адной з частак шырокамаштабнай кампаніі супраць недзяржаўных арганізацыяў у Беларусі. Ліквідацыя "Вясны" па палітычных матывах была б вялікай памылкай з доўгатэрміновымі наступствамі, паколькі як грамадзкі сэктар у цэлым, так і праваабарончыя арганізацыі ў прыватнасьці ёсьць і заўсёды будуць неабходным складнікам любой добраўладкаванай краіны". Швэдзкая арганізацыя заклікае міністра юстыцыі Беларусі адклікаць іск супраць "Вясны".

### ДРОБНЫЯ ПАДСТАВЫ ДЛЯ АПРАЎДАНЬНЯ ЦІСКУ

29 кастрычніка 2003 г. праваабарончая арганізацыя "Amnesty International" выступіла з афіцыйнай заявай, у якой асудзіла закрыцьцё "Вясны".

"На працягу 2003 году беларускія праваабаронцы сутыкаліся з усё большым перасьледам і запужваньнем з боку ўладаў з мэтай поўнага задушэньня. "Вясна" - яшчэ адна арганізацыя, якая стала ахвярай гэтай кампаніі", - заявіла "Amnesty International".

"Немагчыма выдумаць больш дробныя падставы для апраўданьня ціску на беларускую праваабарончую супольнасьць, чым выкарыстаныя беларускімі ўладамі. У сьвятле гэтых неаднаразовых атак любыя сьцьверджаньні, што Беларусь зьяўляецца прававой дзяржавай, дзе паважаюцца правы чалавека, зьяўляюцца фарсам", - гаворыцца ў заяве "Amnesty International". Арганізацыя заклікае беларускія ўлады дазволіць праваабаронцам краіны ажыцьцяўляць сваё права на аб'яднаньні і мірныя сходы без пагрозы перасьледу, запужваньня альбо рэпрэсіяў.

### КЕНІЯ І ЎГАНДА ПАДТРЫМАЛІ БЕЛАРУСКІХ ПРАВААБАРОНЦАЎ

31 кастрычніка штогадовы сход Дамоў правоў чалавека, які праходзіў у Нарвэгіі, прыняў адмысловую заяву пра неабходнасьць тэрміновай дапамогі грамадзянскай супольнасьці Беларусі. "Мы, дэлегаты сусьветнага сходу Дамоў правоў чалавека, выказваем сваю глыбокую занепакоенасьць кампаніяй беларускіх уладаў, скіраванай на зьнішчэньне грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі, - гаворыцца ў заяве. - Мэтадычныя спробы заглушыць голас праваабаронцаў маюць на мэце затармазіць фармаваньне плюралістычнага дэмакратычнага грамадства ў Беларусі". У дакумэнце выказваецца асуджэньне факту закрыцьця ня толькі праваабарончага цэнтру "Вясна", але і іншых грамадзкіх арганізацыяў Беларусі, а таксама незалежных СМІ і Нацыянальнага гуманітарнага ліцэю імя Якуба Коласа. У заяве гаворыцца: "Дэлегаты штогадовага сходу Дамоў правоў чалавека заклікаюць улады ўсіх краінаў, якія былі прадстаўленыя на сходзе, узмацніць маральную, палітычную і фінансавую падтрымку грамадзянскай супольнасьці Беларусі. Мы таксама просім свае ўрады зьвярнуцца да беларускага ўраду з заклікам спыніць рэпрэсіі супраць грамадзянскай супольнасьці і выконваць міжнародныя праваабарончыя нормы".

Дэлегаты штогадовага сходу Дамоў правоў чалавека, прадстаўнікі Босьніі, Харватыі, Кеніі, Уганды, Нарвэгіі, Польшчы, Расеі і Турцыі выказалі сваю салідарнасьць зь беларускімі праваабаронцамі ў іх нялёгкім змаганьні.

Менск

## БЕЛАРУСКІЯ ФОТАМАСТАКІ АБ'ЯДНОЎВАЮЦЦА

Беларускія фатографы рыхтуюцца да стварэньня ўласнай грамадзкай арганізацыі.

Ініцыятыву па заснаваньні прафэсійнага аб'яднаньня вылучылі менскія фотамайстры. Яны лічаць, што недзяржаўная арганізацыя можа "прапагандаваць творчасьць фатографаў і абараняць іх правы і інтарэсы". У розных рэгіёнах Беларусі ўжо прайшлі арганізацыйныя сустрэчы фотамайстроў. Ініцыятары стварэньня новай грамадзкай арганізацыі плянуюць правесьці ў сьнежні ў Менску ўстаноўчы зьезд таварыства фатографаў.

**Юрась Сьцяпанаў**

Берасьце

## ТОЛЬКІ НЯМНОГІЯ ПАМЯТАЮЦЬ ПРА ПРОДКАЎ

Дзяды ў Берасьці адзначыліся дзьвюма падзеямі. Першая адбылася на могілках жаўнераў войска генэрала С. Булак-Балаховіча, якія змагаліся за незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1919-21 гг. Сябры Партыі БНФ усклалі кветкі да памятнага знаку **(на здымку)**, што летась быў усталяваны намаганьнямі дэмакратычнай грамадзкасьці. Другая імпрэза, якая пачалася праз гадзіну ля помніка А. Міцкевічу, сабрала ў асноўным прадстаўнікоў моладзевых арганізацыяў гораду ("Гісторыка", моладзь КХП-БНФ, Малады Фронт, "Сузор'е"). Ініцыятары акцыі, сябры МГА "Гісторыка", правялі чытаньні ўрыўкаў зь міцкевічавых "Дзядоў", сказалі колькі словаў пра яго жыцьцёвы шлях і пакручасты лёс, пра абставіны, якія прымусілі Адама Міцкевіча жыць на чужыне. Былі запаленыя сьвечкі ў гонар нашага славутага суайчынніка. Удзельнікі сходаў з жалем адзначылі, што колькасьць людзей, якія не забываюцца ўшанаваць сваіх продкаў у гэты дзень, не павялічваецца, і мала каго зараз прывабліваюць ідэі адраджэньня гістарычнай памяці народу. На думку выступоўцаў, адзіны шлях вырашэньня гэтай праблемы - зьмена палітычнага ладу ў краіне і паляпшэньне дабрабыту яе жыхароў.

**Зьміцер Шыманскі**

Віцебск

## ГРАМАДЗКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ ВІЦЕБСКУ І НІНБУРГУ ПАДПІСАЛІ ПРАТАКОЛ АБ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ

Віцебскае абласное аддзяленьне грамадзкага аб'яднаньня "Фонд імя Лява Сапегі" і Служба міжнародных кантактаў (IBW) зь нямецкага гораду Нінбургу (зямля Ніжняя Саксонія) падпісалі пратакол аб супрацоўніцтве.

Арганізацыі дамовіліся абменьвацца інфармацыяй па сытуацыі ў Беларусі і ФРГ, спрыяць кантактам паміж партыямі, недзяржаўнымі арганізацыямі і грамадзянамі, знаёміць жыхароў сваіх гарадоў з гісторыяй і культурай беларускага ды нямецкага народаў.

У пратаколе таксама адзначана, што віцебскі бок будзе інфармаваць IBW пра ход выбарчай кампаніі 2004 году. У сваю чаргу IBW, палітычныя партыі, дэпутаты гарадзкой рады Нінбургу і дэпутаты ляндтагу Ніжняй Саксоніі прыкладуць усе намаганьні, каб пры адпаведным рашэньні АБСЭ накіраваць у Віцебск назіральнікаў за выбарамі. У выпадку перасьледу актывістаў віцебскага дэмакратычнага руху сябры IBW будуць ладзіць мерапрыемствы ў знак салідарнасьці зь віцяблянамі.

**Юрась Сьцяпанаў**

Магілёў

## ПРАЦЯГВАЕЦЦА СТВАРЭНЬНЕ РАДЫ МІЖРЭГІЯНАЛЬНАЙ СУПРАЦЫ МОЛАДЗЕВЫХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ

У Магілёўскай вобласьці працягваецца праца па стварэньні Рады міжрэгіянальнай супрацы моладзевых арганізацыяў. Да грамадзкіх арганізацыяў Дрыбіна, Крычава і Шклова далучыліся прадстаўнікі Бабруйску, дзе на выходных прайшоў адмысловы круглы стол. На ім прадстаўнікі моладзевых НДА рэгіёну абмяркоўвалі магчымасьць далучэньня да Рады. Ініцыятарам стварэньня новай структуры выступаюць МГА "Новая зямля", "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў" і ГА "Маладая Грамада".

Падчас сустрэчы бабруйчане распавялі пра дзейнасьць сваіх арганізацыяў, акрэсьлілі асноўныя лякальныя праблемы, апісалі гасьцям мясцовую сытуацыю. У выніку абмеркаваньняў удзельнікі прыйшлі да высновы, што ў 200-тысячным Бабруйску занадта нізкая актыўнасьць моладзі. Гэта выяўляецца ня толькі ў невялікай колькасьці моладзевых НДА, але і ў іх слабой арганізаванасьці. Прысутныя палічылі, што мэтазгодна аб'яднаць высілкі для стварэньня незалежнай грамадзкай структуры, якая б магла абслугоўваць моладзевы сэгмэнт мясцовай супольнасьці. Менавіта гэтая структура зможа прэзэнтаваць моладзевую актыўнасьць Бабруйску ў межах Рады міжрэгіянальнай супрацы. У выніку было прынятае рашэньне ўдзельнічаць у заснаваньні і арганізацыі кааліцыі грамадзка актыўнай моладзі Магілёўскай вобласьці.

**Ільля Заранок**

ДЗЯДЫ - 2003








ДЗЯДЫ - 2003

С. Гараст



**Сёлета сябры слонімскіх грамадзкіх арганізацыяў і Партыі БНФ усталявалі ў в. Парэчча мэмарыяльны знак у гонар паўстанца 1831 і 1833 гадоў Міхала Валовіча. Неўзабаве пасьля таго ён быў пашкоджаны невядомымі вандаламі, а крыж зьнішчаны. Мэмарыяльны знак слонімцы аднавілі, але яго будучы лёс невядомы.**

Горадня

## КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ ЖЫВЕ Ў НОВАЧАРКАСКУ

У мястэчку Сьвіслач (Гарадзенская вобласьць) прайшлі мерапрыемствы ў гонар 140-х угодкаў паўстаньня пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. На мерапрыемства прыехалі сябры грамадзкіх арганізацыяў Гарадзеншчыны, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, а таксама сябра Рады БНР і старшыня Таварыства беларускай культуры ў Вільні Хведар Нюнька. Зь Ліды ў Сьвіслач прыехала сваячка беларускага героя спн. Ніна Каліноўская. Сярод іншага спадарыня распавяла прысутным, што Кастусь Каліноўскі зараз жыве ў Новачаркаску (Растоўская вобл., Расея).

Ніна Каліноўская расказала, што яе брат вырашыў назваць сына ў гонар вядомага родзіча. Хлопец мае 14 гадоў ад нараджэньня і жыве ў Новачаркаску. Спн. Каліноўская распавяла, што пасьля сьмерці братоў Каліноўскіх сям'я была раскіданая па Расейскай імпэрыі. У Самарскай губэрні апынуліся Німіны дзед і бабуля. Апошняя пасьля сьмерці мужа вярнулася ў Беларусь.

"Бацькі мае браліся шлюбам ва ўніяцкай царкве ў Сынкавічах, - расказала спн. Ніна. - Мой бацька заўсёды імкнуўся выхоўваць дзяцей у беларускім духу".

Падчас мерапрыемстваў у гонар 140-годзьдзя паўстаньня ў сьвіслацкім касьцёле сьв. Францішка Асізскага і Найсьвяцейшай Тройцы прайшла імша, прысьвечаная памяці паўстанцаў і ўсіх, хто памёр за незалежнасьць Беларусі. Удзельнікі сьвяткаваньня наведалі магілу Віктара Каліноўскага, які памёр напярэдадні паўстаньня і быў пахаваны на тутэйшых могілках.

**Інга Астраўцова**

Гомель

## ГОМЕЛЬСКІ БРСМ - МАНАПАЛІСТ НА АНТЫСНІДАЎСКУЮ АГІТАЦЫЮ?

Камітэт па справах моладзі Гомельскага аблвыканкаму адмовіўся выдаткаваць сродкі на правядзеньне штогадовай моладзевай акцыі "СНІДабойка", прысьвечанай Сусьветнаму дню барацьбы са СНІДам.

Цягам 8 год Гомельскае абласное грамадзкае аб'яднаньне "Асацыяцыя дзяцей і моладзі" праводзіць акцыю "СНІДабойка". Падчас яе папулярныя гомельскія музыкі, мастакі і дыджэі тлумачаць слухачам і гледачам, якую небясьпеку ўяўляе сабой СНІД і як ад яго засьцерагчыся. Усе гэтыя гады суарганізатарам мерапрыемства значыўся Камітэт па справах моладзі, які аплачваў рахункі за афішы, арэнду апаратуры ці залі. У гэтым годзе камітэт вырашыў апрабаваць новую схему працы.

"У сьпіс суарганізатараў нам прапанавалі ўключыць абкам Беларускага рэспубліканскага саюзу моладзі, на рахунак якога аблвыканкам і пералічыў грошы. Быццам усе астатнія грамадзкія аб'яднаньні фінансаваць забаронена, - распавёў старшыня АСДЭМА Ўладзімер Коўзелеў. - Ад такой прапановы мы катэгарычна адмовіліся, пасьля чаго нам адмовілі ў сродках. Зараз мы шукаем фундатараў".

Адзначым, што гаворка ішла пра суму ў 300 тысяч рублёў. На гэтыя грошы мусілі ўсталяваць праектар, з дапамогай якога плянавалася трансьляваць антыСНІДаўскія відэаролікі.

**Вольга Астроўская**

# "Варута" была, ёсьць і будзе




**У ліпені Берасьцейскі абласны суд прыняў рашэньне аб ліквідацыі "Агенцтва рэгіянальнага разьвіцьця "Варута". Гэтае грамадзкае аб'яднаньне існавала ў Баранавічах больш за пяць гадоў. Цяпер "варутаўцы" дзейнічаюць без рэгістрацыі, але маюць распрацаваны плян легалізацыі.**

**Аляксей Белы, г. Баранавічы**

Калі пяць з паловай гадоў таму мы стварылі грамадзкае аб'яднаньне, якое атрымала назву "Агенцтва рэгіянальнага разьвіцьця "Варута", ніхто ня мог нават уявіць, што зь яго існаваньнем і дзейнасьцю будзе зьвязана столькі праблемаў, што столькі хлусьні пра яго будзе распаўсюджана празь дзяржаўныя СМІ, а пасьля агенцтва ўвогуле закрыюць. А тады, у лютым 1998 году, у Баранавічах сабраліся дванаццаць чалавек - выкладчыкі, журналісты, прадстаўнікі тэхнічнай інтэлігенцыі. Былі акрэсьленыя мэты аб'яднаньня, сярод якіх і такая: *"...аказваць дапамогу ва ўмацаваньні і разьвіцьці ідэяў дэмакратыі дзеля пабудовы грамадзянскай супольнасьці ў Баранавіцкім рэгіёне і Рэспубліцы Беларусь увогуле".* Трэба аддаць належнае - за гэтыя пяць зь лішкам гадоў мы нешта пасьпелі зрабіць.

Дзякуючы "Варуце" рэгулярна праходзілі пасяджэньні Круглага стала грамадзкіх арганізацыяў, прафсаюзаў і незалежных СМІ. І няхай не па ўсіх праблемах і не заўсёды ўдзельнікі Круглага стала (у яго складзе налічвалася больш за сорак арганізацыяў) знаходзілі паразуменьне, але важна было тое, што такія сустрэчы адбываліся, спрэчныя пытаньні выносіліся на абмеркаваньне, да іх прыцягвалася ўвага. "Варута" дапамагала ў падрыхтоўцы і друкаваньні шматлікіх інфармацыйных бюлетэняў, брашураў і нават кніжак. У прыватнасьці, на базе агенцтва быў падрыхтаваны да друку 12-томны твор па гісторыі Баранавіцкага краю, аўтарам якога зьяўляецца сябра арганізацыі Васіль Дубейка.

Вясною 2003-га невядомымі быў абрабаваны офіс "Варуты". Самае цікавае ў гэтай сытуацыі тое, што побач, у гэтым самым будынку па вуліцы Камсамольскай, 24, нават на тым жа паверсе месьцяцца аж тры праваахоўныя ўстановы! Ніхто з супрацоўнікаў міліцыі, вядома ж, нічога ня бачыў і ня чуў... Але "Варута" вытрымала гэтае выпрабаваньне і аднавіла дзейнасьць - дапамаглі партнэрскія арганізацыі.

Напэўна, невыпадковымі былі і артыкулы-паклёпы на "Варуту" і яе сяброў, якія неаднаразова друкаваліся ў абласной дзяржаўнай газэце "Зара" і раённай - "Наш край". Так улада "рэагавала" на тое, што







**На базе "Варуты" быў падрыхтаваны да друку 12-томны твор па гісторыі Баранавіцкага краю, аўтарам якога зьяўляецца сябра арганізацыі гісторык і краязнаўца Васіль Дубейка (на здымку ў цэнтры).**

папулярнасьць "Варуты" расла, што пашыраліся яе міжнародныя стасункі. Не маглі не зьвярнуць увагу ўладныя колы і на сумесную праграму "Варуты" і баранавіцкай газэты "Intex-press", у час якой рэгулярна выходзіла старонка "Вольны горад".

У рэшце рэшт усё гэта прывяло да таго, што "Варута" стала небясьпечнай для ўладаў - занадта ж шмат пра арганізацыю гаварылі і пісалі. Каб зьнішчыць яе, не прыйшлося шукаць важкіх прычынаў. 9 ліпеня Берасьцейскі абласны суд вынес пастанову аб ліквідацыі вядомага грамадзкага аб'яднаньня. І хаця з шасьці пунктаў, па якіх абвінавачвалася арганізацыя, "вытрымалі праверку" толькі два, прычым ня самыя катэгарычныя, "Варуту" ліквідавалі...

Афіцыйна закрыць арганізацыю можна, але "закрыць" яе сяброў - не. Ніхто не забароніць ім зьбірацца разам за кубкам кавы ці гарбаты, як і запрашаць на такія сходы-вечарыны іншых асобаў. Незарэгістраваная арганізацыя - гэта галаўны боль для ўладаў, якія заганяюць трэці сэктар у цень і не разумеюць, што ствараюць праблемы найперш для сябе.

## ІГАР ТЫШКЕВІЧ: "НЕЛЬГА КЛАСЬЦІ ЎСЕ ЯЙКІ Ў АДЗІН КОШЫК"

**Старшыня ліквідаванай грамадзкай арганізацыі "Агенцтва рэгіянальнага разьвіцьця "Варута" Ігар Тышкевіч распавядае пра пляны далейшай дзейнасьці.**

**- Што для Вас значыць "Варута"?**

- Гэта - праца. Вядома, ёсьць праца для душы і праца для грошай. Добра, калі яны супадаюць. У мяне, на жаль, так не атрымліваецца. Для грошай я працую па спэцыяльнасьці - праграмістам, а "Варута" - гэта праца для душы. Гэта тое месца, дзе сапраўды цікава, дзе можна рэалізоўваць нейкія ідэі, і прыемна бачыць, калі штосьці атрымліваецца.

**- Арганізацыя ліквідаваная, што мяркуеце рабіць далей?**

- Тое, што і раней. Калісьці мы дзейнічалі і да атрыманьня рэгістрацыі, зараз яе ў нас зноў няма, але мы ўсё роўна будзем працаваць, толькі ўжо не пад шыльдай "Варуты"... Калі прыйшлі першыя позвы ў суд, мы зьбіраліся, думалі, што рабіць далей. І што мяне па-добраму зьдзівіла - супрацоўнікі арганізацыі ўспрынялі навіну пра магчымасьць ліквідацыі "Варуты" абсалютна спакойна. Не было ні панікі, ні шоку. Працавалі ў старым памяшканьні да апошняга дня, а напярэдадні пераезду ў нас праходзілі дзьве імпрэзы.

**- Ці будзе зарэгістраваная новая арганізацыя?**

- Я думаю, будзе некалькі дадатковых шыльдаў. Папершае, нашымі праграмамі і людзьмі сёньня цікавіцца некалькі агульнарэспубліканскіх аб'яднаньняў, а па-другое, зьявіцца некалькі сваіх зарэгістраваных арганізацыяў. Але ўсе яны будуць нефармальна аб'яднаныя ў каардынацыйную структуру, якая будзе называцца "Варута". З таго, што адбылося, мы зрабілі выснову: нельга класьці ўсе яйкі ў адзін кошык.

**- Значыць, пра "Варуту" мы яшчэ пачуем?**

- Вядома ж, бо яна ёсьць і будзе!

# Эпоха рэпрэсіяў працягваецца

**У верасьні ў газэце "Семь дней" зьявіўся артыкул пра Курапаты і грамадзкую ініцыятыву "За выратаваньне мэмарыялу "Курапаты". Зразумела, ад такога выданьня нельга было чакаць аб'ектыўнай публікацыі, тым больш што яе аўтарам выступіла сумнавядомая "грамадзкая камісія па незалежным расьсьледаваньні". Артыкул, які, дарэчы, нагадвае данос, бярэ пад сумнеў прафэсіяналізм і аб'ектыўнасьць ня толькі ініцыятывы, але і дзяржаўных структураў, якія праводзілі расьсьледаваньне "Курапацкай справы", спрабуючы ўнесьці ў яе "нямецкі сьлед" і адмаўляючы ўдзел у расстрэлах палітзьняволеных органаў НКУС. З гэтай нагоды за круглым сталом у рэдакцыі "Асамблеі" сабраліся актывісты грамадзкай ініцыятывы "За выратаваньне мэмарыялу "Курапаты" гісторык Ігар Кузьняцоў і гісторык культуры Вацлаў Арэшка.**

### ФАКТЫ НЕ ПАДАБАЮЦЦА

Артыкул "О Куропатах и "демократах" ("Семь дней", 2003, 6 верасьня) па задумцы яго аўтараў (сярод іх ёсьць нават падпалкоўнік запасу КДБ СССР Ляпешка) мусіў стаць адказам на зборнік матэрыялаў, выдадзены ў мінулым годзе грамадзкай ініцыятывай "За выратаваньне мэмарыялу "Курапаты". Аднак атрымалася звычайная тэндэнцыйная публікацыя зь нічым не абгрунтаванымі высновамі, з абразамі. Ігар Кузьняцоў і Вацлаў Арэшка мяркуюць, што ўступленьне ў дыскусію з гэтымі людзьмі - справа бессэнсоўная, аднак палічылі неабходным яшчэ раз выказаць сваю пазыцыю.

Але спачатку коратка перакажам асноўныя тэзы і закіды членаў "грамадзкай камісіі па незалежным расьсьледаваньні масавай гібелі людзей у т.зв. Курапатах". Галоўнае - яны лічаць, што ў Курапатах пахаваныя ахвяры фашыстоўскага генацыду. Адсюль і абвінавачаньне ў адрас аўтараў кнігі "Курапаты. Зборнік матэрыялаў" (Менск, 2002), што яны "ні кроку не зрабілі да аб'ектыўнага высьвятленьня пытаньня, хто і калі расстрэльваў людзей". Быццам бы археолягі Крывальцэвіч і Іоў падаюць толькі "бачнасьць фактаў", "ігнаруюць аб'ектыўна-навуковы падыход". І ўвогуле, аўтары зборніка цягнуць "Курапацкую справу" ў палітыку... Нарэшце, члены камісіі называюць Курапаты "так званымі", бо гэты "тэрмін... да вайны не існаваў". Яны таксама заклікаюць улады "навесьці парадак" у справе ўсталяваньня крыжоў, і ня толькі ў Курапатах, але і ў Лошыцы, парку Чалюскінцаў, іншых месцах. Акрамя згаданага вышэй чэкіста Ляпешкі, артыкул падпісалі Ганна Кузюковіч, Раіса Міронччыкава і Анатоль Смалянка, прозьвішчы якіх нам нічога не гавораць. Усе яны - члены "грамадзкай камісіі".

### МЭТА - ЗАКАПАЦЬ ІСЬЦІНУ

"Што ўяўляе сабой "грамадзкая камісія"? Яна ўзьнікла яшчэ падчас правядзеньня другога сьледзтва па Курапатах, у 1994-95 гадах, хаця і да таго часу некаторыя асобы выказвалі сваё незадавальненьне, пісалі лісты ў ЦК КПСС, - распавядае І. Кузьняцоў. - Затым гэтая "камісія" праявіла сябе напярэдадні рэфэрэндуму, я маю на ўвазе фільм Азаронка. Раней яе ўзначальваў Корзун, а хто цяпер - я нават ня ведаю".

"Ім не падабаецца выдадзеная намі кніга, а стваралася яна, па сутнасьці, на грамадзкіх пачатках, безь ніякага фінансаваньня, - гаворыць В. Арэшка. - Яе аўтары - людзі неабыякавыя, яны - навукоўцы-прафэсіяналы. Ігар Кузьняцоў - кандыдат гістарычных навук, аўтар шматлікіх публікацыяў, у тым ліку прызнаных за мяжой. Я ўжо не кажу пра такіх людзей, як Крывальцэвіч і Іоў, якія зьяўляюцца прафэсійнымі археолягамі, а Курапатамі займаюцца з канца 80-х гадоў".

На думку В. Арэшкі, у кнізе "няма ні слова няпраўды", яна напісаная аб'ектыўна. І які "непрафэсіяналізм" убачылі ў ёй члены "грамадзкай камісіі"? Хіба тое, што яна выдавалася не пад эгідай дзяржавы? Дык тая, на жаль, сёньня не цікавіцца такімі праектамі і не фінансуе іх. Выхаду зборніка ў сьвет дапамагла Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.

Каб падмацаваць сваю "вэрсію" пра "нямецкі сьлед", аўтары артыкула ў газэце "Семь дней" кажуць абсалютную бязглуздзіцу. Напрыклад, у фільме Азаронка тлумачаць факт знаходак у магілах расстраляных каталіцкай сымболікі тым, што "ў габрэяў на той час не было дзяржавы Ізраіль, таму яны карысталіся каталіцкімі крыжамі"... Вэрсія пра расстрэл немцамі ў Курапатах гамбурскіх габрэяў не была пацьверджаная сьледзтвам. Але "грамадзкая камісія" працягвае настойваць на ёй, пішучы ў газэце пра зробленыя знаходкі золата ў Курапатах.

"Калі разглядаць артыкул з пункту гледжаньня Крымінальнага кодэксу, то ён падштурхоўвае да правядзеньня незаконных раскопак, - кажа І. Кузьняцоў. - Ёсьць тут і элемэнт антысэмітызму. Стварaюцца кантрасты: беларусы - бедныя, у іх залатых вырабаў не было, а габрэі - багатыя, хапугі... Наагул усё, што робіць грамадзкая камісія, мае на мэце не высьвятленьне ісьціны, а яе закопваньне".







А.Лянкевіч

### УЛАДЫ ВЫРАШЫЛІ НЕ ІНФАРМАВАЦЬ ГРАМАДЗТВА

"У красавіку 1999 году было гатовае заключэньне вайсковай пракуратуры, - гаворыць Ігар Кузьняцоў. - На жаль, я гэтага дакумэнту ня маю, але сьледчы Камароўскі (цяпер ужо нябожчык) мяне зь ім азнаёміў. Па памяці працытую дакладную запіску ад красавіка 1999 году былога генэральнага пракурора Алега Бажэлкі на імя Віктара Шэймана, тады яшчэ сакратара Рады бясьпекі:

*"Сьледзтва завершана, вынікі несуцяшальныя, сьлед НКУС пацьверджаны. Магчымы "нямецкі сьлед", але доказаў ня знойдзена. У сувязі з тым, што апазыцыя можа выкарыстаць гэта ў сваіх палітычных інтарэсах, ёсьць неабходнасьць матэрыялы сьледзтва не рассакрэчваць і грамадзкасьць не інфармаваць".*

Так што ў мяне няма ніякіх падставаў уступаць з "грамадзкай камісіяй" у спрэчкі, бо па "Курапацкай справе" юрыдычна ўсё ўжо даказана!"

Зьдзіўляе той факт, што да сёньняшняга часу ў дзяржаўных СМІ так і не былі абнародаваныя вынікі трэцяга сьледзтва па "Курапацкай справе", якое праводзіла вайсковая пракуратура. Мала таго, у 2001 г. на БТ выйшаў 45-хвілінны фільм "Курапаты: эксгумацыя нянавісьці", сцэнар якога быў пабудаваны толькі на матэрыялах сумнавядомай "грамадзкай камісіі".

"Цікава, а ці зарэгістраваная гэтая "камісія"? Мне падаецца, што хутчэй за ўсё яна - незаконная арганізацыя", - кажа Вацлаў Арэшка. Калі гэта праўда, публікацыя дакумэнту за яе подпісам мусіла б прывесьці да вынясеньня папярэджаньня газэце. Але нам добра вядома, што ўлады ўжываюць палітыку двайных стандартаў у дачыненьнях зь дзяржаўнымі і недзяржаўнымі СМІ. Таму ў штотыднёвіка "Семь дней" праблемаў ня ўзьнікла. І гэта ня першы выпадак. У 1999 г. гэтая ж "камісія" надрукавала ў газэце "Славянский набат" засакрэчаныя матэрыялы сьледзтва па Курапатах. Крымінальнай справы ўзбуджана не было. І дзе ж роўнасьць перад законам?

### ДЫЯЛЁГ ЦІ КАНФРАНТАЦЫЯ?

"Мы заўсёды арыентаваліся на дыялёг з уладамі, а не на канфрантацыю", - гаворыць В. Арэш-



**Ігар Кузьняцоў: "Грамадзкая камісія" закопвае ісьціну"**

ка. І гэта натуральна, бо хто як не дзяржава мусіць клапаціцца пра ўшанаваньне памяці дзясяткаў тысяч бязьвінных ахвяраў бальшавіцкага тэрору. Гэта мы назіраем у постсавецкіх краінах, якія сталі на шлях дэмакратычнага разьвіцьця, але ў нашай краіне сытуацыя іншая.

І тым ня менш грамадзкая ініцыятыва "За выратаваньне мэмарыялу "Курапаты" будзе працягваць пісаць лісты ў пракуратуру і КДБ з мэтай атрыманьня з гэтых інстанцыяў дакумэнту, які б даў адказ на пытаньне: ці існуюць месцы масавых расстрэлаў, ці іх няма ў прынцыпе? "Ад гэтага адказу шмат у чым будзе залежаць нашая далейшая дзейнасьць, - гаворыць Арэшка. - Калі яны адкажуць, што месцаў масавых расстрэлаў ня ведаюць, што ў іх няма такой інфармацыі, тады гэта будзе сьведчыць пра пэўную дзяржаўную палітыку. Калі адказныя органы адкажуць, што такія месцы ёсьць, і назавуць іх, тады можам працаваць далей, у тым ліку і зь дзяржавай, дзяржаўнымі структурамі".

Практыка супрацоўніцтва з выканаўчымі органамі ўлады ўжо ёсьць. Напрыклад, існуе дамоўленасьць з Бараўлянскім сельскім саветам пра стварэньне народнай дружыны, якая будзе ахоўваць раён Курапатаў. Сьпісы гэтай арганізацыі падае БНФ, а пакуль у Курапатах пачалі часьцей зьяўляцца патрулі міліцыянтаў.

### "КАМПРАМІСНЫ ВАРЫЯНТ"

Ігар Кузьняцоў дапускае магчымасьць прызначэньня чацьвертага сьледзтва па Курапатах. І на гэты раз яму будзе пастаўленая задача знайсьці "нямецкі сьлед", толькі выканаўцы ўжо будуць іншыя. Калі падчас мінулага расьсьледаваньня сьледчы не пайшоў на фальсыфікацыю (тады яшчэ і абстаноўка не дазваляла), дык цяпер можна чакаць чаго заўгодна.

"Яны могуць выдаць кампрамісны варыянт: і НКУС расстрэльваў, і фашысты, якія стралялі больш за чэкістаў, - кажа Кузьняцоў. - А далей, я думаю, улада ня пойдзе. Бо існуе 20 тамоў сьледзтва па Курапатах, у якія трыма сьледчымі сабраны ўвесь комплекс доказаў. Таму цяжка там знайсьці нешта, за што можна зачапіцца. А правесьці новае расьсьледаваньне - справа дарагая, і яна прыцягне да сябе ўвагу апазыцыі. А цяпер тактыка ўлады іншая - яна папросту ігнаруе гэты факт. Нібыта расстрэлаў у Курапатах не было".

Вацлава Арэшку непакоіць, што ўлады вельмі лёгка пагадзіліся спыніць будаўніцтва каля Курапатаў праваслаўнай капліцы і катэджаў. "Можа, гэтую тэрыторыю прыхавалі для кагосьці іншага? - разважае ён. - Ёсьць плян развіцьця Менску, у адпаведнасьці зь якім на месцы Курапатаў разьмясьціцца мікрараён, і плян гэты ніхто не адмяняў. Так што цалкам магчыма, што чарговы віток гэтай справы будзе ў бліжэйшы час. Мяне турбуе тое, што гэты артыкул заклікае да нейкіх канкрэтных чынаў. Гэта ня проста чарговы ліст, гэта ўжо праграма дзеяньняў. Я ня думаю, што ўлада адразу адрэагуе, але гэта можа выклікаць некалькі варыянтаў канкрэтных дзеяньняў. Першае - можа быць ініцыяваная грамадзкая хваля, публікацыі, і тады ўлада павінна адрэагаваць, прыняць нейкія рашэньні, "бо грамадзтва патрабуе навесьці парадак"...

"Эпоха рэпрэсіяў у нас яшчэ працягваецца", - з сумам кажа Вацлаў Арэшка. Ён перакананы, што сытуацыя ў Курапатах і вакол іх радыкальна зьменіцца толькі пасьля палітычных пераменаў у краіне. Бо публікацыя ў газэце "Семь дней" можа быць ня толькі ініцыятывай "групы таварышаў", але і нейкай агульнай тэндэнцыяй, што вызначае палітыку дзяржавы на бліжэйшы час, дзяржаўную ідэалёгію, якая цяпер актыўна ствараецца.



**Вацлаў Арэшка: "Будзем чакаць афіцыйных адказаў з дзяржаўных органаў".**

У сёньняшняй сытуацыі па-ранейшаму застаецца актуальнай праблема захаваньня Курапатаў, данясеньня праўды пра іх да грамадзтва, супрацьдзеяньня хлусьлівым "высновам" незразумелых "грамадзкіх камісіяў". І гэта за нас ніхто ня зробіць. На міжнародныя арганізацыі і іх дапамогу ў гэтай справе спадзявацца не выпадае.

**Падрыхтаваў Вінцэсь Дзямянчук, здымкі Андрэя Лянкевіча**





# NGO у Беларусі: ад філяматаў да "Талакі"

**Недзяржаўныя грамадзкія арганізацыі зьявіліся ў Беларусі не ў пачатку 1990-х, калі будавалася незалежная дзяржава, і не ў 1980-х, калі ў падпольлі арганізоўваўся нацыянальна-вызвалечны рух. Гісторыя іх значна багацейшая, яна бярэ свой пачатак яшчэ напрыканцы XVIII стагодзьдзя. Амаль увесь гэты час беларусы стала жылі пад акупацыямі, якія часта зьмяняліся. Але грамадзкая актыўнасьць нашых продкаў заўсёды была досыць высокая, увесь час існавалі арганізацыі, якія не сьпяшаліся прасіць рэгістрацыі ў чужой улады. Нарыс гісторыка Алега Гардзіенкі - гэта адна зь першых спробаў дасьледаваць пачаткі NGO у Беларусі, паказаць, якім чынам на працягу стагодзьдзяў будаваліся адносіны паміж трэцім сэктарам і ўладай.**

**Алег Гардзіенка**

*Грамадзкая арганізацыя - гэта добраахвотнае аб'яднаньне грамадзянаў, што мае ўнутраную арганізацыю зьнізу даверху, фіксаванае індывідуальнае альбо калектыўнае сяброўства.*

Гэтае вызначэньне ўзятае з клясычнага падручніка паліталёгіі для ВНУ. Вызначэньне дае падставу адносіць да грамадзкіх арганізацыяў вялікі шэраг аб'яднаньняў: гэта легальныя і нелегальныя таварыствы, дабрачынныя арганізацыі, аб'яднаньні эканамічнага накірунку, а таксама спартовыя, рэлігійныя, асьветніцкія, аматараў прыгожых мастацтваў, тыя, што маюць на мэце абарону здароўя людзей. Таксама колькасьць арганізацыяў таго ці іншага накірунку дзейнасьці наўпрост залежыць ад палітычнай ці эканамічнай сытуацыі ў нейкі пэрыяд гісторыі. Так, падчас Першай Сусьветнай вайны і ў першыя паваенныя гады дзейнічала вялікая колькасьць дабрачынных арганізацыяў, якія дапамагалі пацярпелым ад жахаў вайны, уцекачам, сіротам, інвалідам і г.д. Цікава, што многія беларускія дзяржаўныя дзеячы ўваходзілі ў такія аб'яднаньні, беручы паралельна ўдзел і ў палітычных партыях. Але, відаць, праца ў дабрачынных суполках была больш эфэктыўнай.

Ахапіць увесь спэктар грамадзкіх арганізацыяў Беларусі ў гэтым артыкуле немагчыма. Таму будзем разглядаць найперш грамадзкія арганізацыі гэтак званай нацыянальнай афарбоўкі, ці - што характэрна для XIX ст. - патрыятычнага кірунку (маючы на ўвазе тыя, што ставілі сабе за мэту вяртаньне часоў Рэчы Паспалітай). Натуральна, што на разгляд не трапляюць аб'яднаньні выразна палітычнага ці вайсковага характару.

### СТУДЭНЦКІЯ ТАВАРЫСТВЫ

Напрыканцы 10-х гадоў XIX ст. у Віленскім унівэрсытэце ўзьніклі тайныя патрыятычныя арганізацыі філяматаў, філярэтаў, прамяністых. У адрозьненьне ад нелегальных філяматаў і філярэтаў, таварыства ***прамяністых*** - сяброў карыснай забавы - было легальным, зацьверджаным рэктарам унівэрсытэту. Яго заснаваў у красавіку 1820 г. студэнт Віленскага ўнівэрсытэту Тамаш Зан. Прамяністыя ставілі за мэту далучэньне моладзі да навукі, літаратуры, гісторыі, дапамагалі фінансава малазабясьпечаным таварышам, а таксама ў працаўладкаваньні, зьбіралі кнігі патрыятычнага зьместу. За лічаныя летнія месяцы таварыства разраслося да 300 сяброў, што складала трэціну студэнтаў унівэрсытэту. Шалёная папулярнасьць прамяністых муляла вочы кансэрватыўна настроеным выкладчыкам, і таварыства, праіснаваўшы лічаныя месяцы, было забаронена. У 1823 г. у час разгрому таварыстваў філяматаў і філярэтаў пад гарачую руку расейскіх уладаў трапілі і былыя сябры прамяністых, якія кааптаваліся ў іх.

Жорсткая расправа са студэнтамі, закрыццё ў 1832 г. Віленскага ўнівэрсытэту, здавалася, надоўга адаб'юць цікавасьць да стварэньня арганізацыяў, тым больш тайных. Але ўжо ў 1836 г. у Віленскай мэдыцынскай школе ўраджэнец Піншчыны Франц Савіч заснаваў ***Дэмакратычнае таварыства.*** Арганізацыя напачатку ставіла сацыяльныя мэты - дапамога ўсім людзям незалежна ад нацыянальнасьці, веравызнаньня, сацыяльнага паходжаньня; маральнае самаўдасканаленьне. Але ў хуткім часе таварыства стала на палітычныя рэйкі і далучылася да польскай тайнай арганізацыі "Садружнасьць польскага народу". За гэта яго ўдзельнікі і паплаціліся. У 1838 г. арганізацыя была выкрыта царскімі ўладамі, а яе сябры арыштаваныя і сасланыя на Каўказ у салдаты.

Сьцяг Франца Савіча падхапіў ягоны цёзка, праўда, зь Мёраў, Вайніслаў Суліма-Савіч-Заблоцкі, які ў 1868 г. заснаваў у Пецярбургу таварыства ***Крывіцкі вязок.*** Гэты "вязок" можна лічыць *першай беларускай* арганізацыяй, якая ставіла за мэту зьбіраньне матэрыялаў па гісторыі Беларусі (а ня Рэчы Паспалітай), вывучэньне беларускай (а не ліцьвінскай) мовы, выданьне папулярных кніг і падручнікаў для простага люду. У 1870 г. таварыства распалася з-за пагрозы рэпрэсіяў, а Савіч-Заблоцкі часова выехаў за мяжу.



А.Лянкевіч

**Некаторыя дасьледчыкі лічаць першымі NGO на тэрыторыі Беларусі масонскія ложы, у якіх было фіксаванае сяброўства. На здымку: сучасны выгляд колішняга Дому масонаў у Менску**

А вось народніцкая арганізацыя ***Гоман,*** створаная студэнтамі-беларусамі ў 1884 г. у расейскай сталіцы, першай тэарэтычна абгрунтавала існаваньне беларускай нацыі і выставіла патрабаваньне сацыяльнага і нацыянальнага разьняволеньня беларускага народу.

Зрэшты, большасьць беларускіх арганізацыяў мяжы XIX - пачатку XX стст. мелі яскравы асьветніцкі характар і сваёй дзейнасьцю спрычыніліся да разьвіцьця нацыянальнай асьветы. Як, напрыклад, заснаваны ў Пецярбургу ў 1902 г. братамі Іванам і Антонам Луцкевічамі, а таксама Вацлавам Іваноўскім ***Круг беларускай народнай прасьветы і культуры.*** Арганізацыя займалася выданьнем і пашырэньнем беларускай літаратуры. У прыватнасьці, Іваноўскі, браты Луцкевічы, Алаіза Пашкевіч выдалі першую беларускую грамадзка-палітычную газэту "Свабода", зборнік вершаў Янкі Лучыны "Вязанка", а таксама зборнікі "Калядная пісанка" і "Велікодная пісанка", куды ўвайшлі творы Алаізы Пашкевіч (Цёткі), Каруся Каганца, Фэлікса Ўмястоўскага. Наладжваючы выдавецкі працэс, яго ўдзельнікі моцна рызыкавалі, бо беларуская мова тады была забароненая. Пазьней на падмурку "Круга прасьветы" вырасьлі Беларуская сацыялістычная грамада, а затым і выдавецкая суполка "Загляне сонца і ў наша ваконца". А ў 1912 г. быў створаны Беларускі навукова-літаратурны гурток студэнтаў Санкт-Пецярбурскага ўнівэрсытэту, старастам якога быў абраны Браніслаў Тарашкевіч.

Зазначым таксама, што ў 1906 г. у Расейскай імпэрыі быў прыняты закон аб грамадзкіх арганізацыях - "Часовыя правілы аб таварыствах і саюзах". Паводле іх асобы, што пажадалі стварыць таварыства, павінны былі падаць пісьмовую заяву губэрнатару ці гарадзкому галаве, і калі на працягу двух тыдняў не было адмовы, тады арганізацыя магла спакойна распачынаць дзейнасьць. Сяброўства ў таварыствах дазвалялася асобам, старэйшым за 18 гадоў, але забараняўся ўдзел ніжэйшым вайсковым чынам, а таксама навучэнцам, у тым ліку і студэнтам. Кантроль за дзейнасьцю тагачасных NGO ажыцьцяўляла Міністэрства ўнутраных справаў (у нас цяпер гэты "пачэсны абавязак" ляжыць на Міністэрстве юстыцыі).

## ПААБАПАЛ РЫСКАЙ МЯЖЫ

У 1921 г., а фактычна двума гадамі раней, Беларусь была падзеленая паміж Польскай дзяржавай і бальшавіцкай Расеяй (незалежнасьць БССР у 1919-22 гг., яшчэ да







**Грамадзкія актывісты ў Слоніме, пачатак XX ст. Другі зьлева - паэт Гальяш Леўчык. Фота са збораў Слонімскага краязнаўчага музэю імя Язэпа Стаброўскага**

ўваходу ў СССР, была ня больш чым фікцыяй).

У Заходняй Беларусі дзейнасьць грамадзкіх арганізацыяў была трохі вальнейшай. За нацыянальныя погляды, за выключэньнем камуністычных ці блізкіх да камуністычных, тут у турму масава ня кідалі. Але сымпатыкаў камунізму "дзякуючы" нацыянальнаму і сацыяльнаму прыгнёту ў Польскай дзяржаве сярод заходнебеларускага жыхарства значна паболела. Так, найбуйнейшай палітычнай партыяй, што спавядала рэвалюцыйныя погляды і шчодра субсыдыявалася "грантадаўцамі" з БССР, стала Беларуская сялянска-работніцкая грамада, якая ў 1926 г. налічвала 120 тыс. сябраў, у той час як насельніцтва Заходняй Беларусі складала амаль 3 млн. 200 тыс., а ўласна беларусаў было ня больш за 60% (1 млн. 900 тыс.).

Да грамадзкіх арганізацыяў можна аднесьці ***камсамол Заходняй Беларусі***, які меў суполкі амаль ва ўсіх паветах. Камсамольцы, добра забясьпечаныя фінансава і ідэйна, разьвілі бурную дзейнасьць: выдавалася незьлічоная колькасьць газэт, часопісаў, ладзіліся акцыі. Маладыя камуністы не задумваючыся кідалі на барыкады юнакоў і дзяўчат, якія за антыдзяржаўную дзейнасьць траплялі ў турмы. Але там яны, прынамсі, выжывалі. Усё ж Польшча, у адрозьненьне ад СССР, была дэмакратычнай дзяржавай.

Але былі ў Заходняй Беларусі грамадзкія арганізацыі, што стаялі на нацыянальным грунце. Адной з такіх напачатку сваёй дзейнасьці зьяўлялася ***Таварыства беларускай школы*** (1921-36). Сярод актывістаў арганізацыі былі зоркі палітычнай сцэны 20-30-х гг. - Радаслаў Астроўскі, Флягонт Валынец, Ігнат Дварчанін, Антон Луцкевіч, Пётра Мятла, Антон Неканда-Трэпка, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Адам Станкевіч, Аляксандар Уласаў. Галоўнай мэтай ТБШ было *"распаўсюджваць і дапамагаць асьвеце сярод беларусаў, пашыраць беларускія школы і беларускую асьвету наагул".* ТБШ змагалася за беларускія школы, што мэтадычна закрываліся ўладамі, засноўвала гурткі для павышэньня агульнаадукацыйнага і культурнага ўзроўню насельніцтва. На жаль, зь сярэдзіны 20-х ТБШ канчаткова стала філіяй КПЗБ і БСРГ і зьбілася на рэвалюцыйную барацьбу і рыторыку.

Нязгодныя з камунізацыяй ТБШ сябры Беларускага сялянскага саюзу і Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі заснавалі ў 1926 г. у Вільні ***Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры.*** Ягонымі "айцамі" былі Адам Більдзюкевіч, сэнатары Вячаслаў Багда-




**Такія паштоўкі распаўсюджвалі актывісты беларускіх грамадзкіх арганізацыяў у пачатку 1920-х гг.**

новіч, Васіль Рагуля, пасол сэйму Аляксандар Уласаў, ксёндз Адам Станкевіч. БІГіК, таксама як і ТБШ, меў на мэце нацыянальную культурна-асьветніцкую працу, паралельна агітуючы супраць камуністычных уплываў. Але рэсурсы Інстытуту былі куды меншыя - у яго ўваходзіла 80 гурткоў (1200 чалавек). Тым часам у ТБШ налічвалася 15 тыс. чалавек і куды болей сымпатыкаў.

На падобных антыкамуністычных пазыцыях стаяла і ***Таварыства беларускай асьветы,*** што дзейнічала ў Заходняй Беларусі ў 1932-37 гг. і было створана на аснове Цэнтральнага саюзу культурных і гаспадарчых арганізацыяў (Р. Астроўскі, А. Луцкевіч, Язэп Шнаркевіч, Сымон Кароль).

У савецкай частцы Беларусі сытуацыя была іншая. Палітычныя партыі ў хуткім часе былі забароненыя, а арганізацыі перайшлі пад пільнае вока камуністычнай партыі, камсамолу і прафсаюзаў. Яскравы прыклад зь пісьменьніцкімі арганізацыямі. Так, на зьмену пісьменьніцкім аб'яднаньням "Маладняк", "Узвышша", "Полымя" і Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменьнікаў прыйшоў цалкам залежны ад дзяржавы Саюз беларускіх пісьменьнікаў. Уся дзейнасьць грамадзкіх арганізацыяў зводзілася да падтрымкі сацыялістычнага ладу і мерапрыемстваў савецкіх уладаў. Пры канцы 20-х - пачатку 30-х гг. шырока разгарнулі сваю дзейнасьць Таварыства па ліквідацыі непісьменнасьці, МОПР (міжнародная арганізацыя дапамогі палітычным рэпрэсаваным), Таварыства аматараў кнігі, Асавіяхім, сумнавядомы "Саюз ваяўнічых бязбожнікаў".

Дзейнасьць тых, хто ішоў насуперак агульнапрынятым рамкам, жорстка спынялася. Так здарылася з ***гуртком Лістапада.*** Арганізацыя была створаная ў 1924 г. у Слуцку настаўнікам, колішнім удзельнікам Слуцкага збройнага чыну Юркам Лістападам сярод слухачоў агульнаадукацыйных курсаў. Курсысты пад уплывам Лістапада пастанавілі заснаваць агульнабеларускую арганізацыю, каб у пэрспэктыве праводзіць антыбальшавіцкую прапаганду ў нацыянальным духу. Канчатковай мэтай дзейнасьці было змаганьне за незалежную Беларускую дзяржаву. Агенты АДПУ, якіх заслалі да лістападаўцаў, спрычыніліся да яе разгрому. Таму арганізацыя праіснавала крыху больш за год, а яе ўдзельнікі ў 1926 г. асуджаныя.

Эмігрант Аўген Калубовіч апісаў у сваіх успамінах дзейнасьць арганізацыі ***Альтруістаў***, што дзейнічала ў канцы 20-х гг. у Бабчынскім пэдтэхнікуме (сёньняшні Хойніцкі раён Гомельскай вобласьці) і таксама была разгромленая. Праўда, палітычныя апанэнты Калубовіча, які ў эміграцыі ўваходзіў ва ўрад БНР, паставілі пад сумнеў само існаваньне Альтруістаў.





## ПАВАЕННЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ

Такі ж лёс - жорсткае задушэньне - напаткаў і моладзевыя арганізацыі, што ўзьніклі па сканчэньні Другой Сусьветнай вайны ў Заходняй Беларусі. У Пастаўскай і Глыбоцкай пэдагагічных вучэльнях была створаная падпольная арганізацыя ***"Саюз беларускіх патрыётаў".*** Студэнты, што навучаліся падчас нямецкай акупацыі ў беларускіх як па форме, так і па зьмесьце школах і бралі ўдзел у патрыятычным Саюзе беларускай моладзі, па сканчэньні вайны ніяк не маглі зразумець прычыны русыфікацыі навучальнага працэсу, які пачаўся зь вяртаньнем савецкай улады на заходнебеларускія землі.

Ня згодныя з такой сытуацыяй юнакі і дзяўчаты вырашылі заснаваць ***"Саюз беларускіх патрыётаў"***, мэтай якога было пашырэньне нацыянальнай сьвядомасьці сярод людзей, зь якімі меліся жыць і працаваць будучыя настаўнікі, у прыватнасьці, са школьнікамі. СБП ня ставіў перад сабой палітычных мэтаў, нават ня меў статуту (толькі фіксаванае сяброўства), і выпрацаваў асноўныя палажэньні праграмы: *"сапраўдная, а не дэкляратыўная самастойнасьць Беларусі, дзяржаўнасьць беларускай мовы, бел-чырвона-белы сьцяг і герб Пагоня ў якасьці дзяржаўных сымбаляў".*

Сябры СБП распрацавалі прысягу, але актыўнай дзейнасьці не выяўлялі, проста *"сустракаліся паміж сабой, абмяркоўвалі падзеі ў вучэльні, горадзе, рэспубліцы, у сьвеце, гаварылі пра сваё. Гутарылі са знаёмымі навучэнцамі, рыхтавалі таго ці іншага сябра да ўступленьня ў Саюз. Прымалі новенькіх. Сэнс нашага згуртаваньня мы бачылі ў паяднаньні адной прысягай, у заўсёдным адчуваньні свайго абавязку думаць пра Беларусь, дзейнічаць на карысьць Беларусі, беларускай справы".* Нягледзячы на такую збольшага вусную дзейнасьць, СБП быў жорстка разгромлены (люты 1947 г.). Па справе Саюзу прайшлі больш за 40 чалавек. Кіраўнікі арганізацыі - Васіль Мядзелец, Антон Фурс, Мікола Асіненка, Валянцін Лагунёнак, Алесь Юршэвіч - былі прысуджаныя за антысавецкую прапаганду да найвышэйшай меры пакараньня - расстрэлу. Праўда, у СССР на момант абвяшчэньня прысуду сьмяротную кару адмянілі, "літасьціва" замяніўшы 25 гадамі лягераў. Большасьць жа сябраў арганізацыі атрымалі 10 гадоў лягераў. Вызваліла іх у 1955-56 гг. хрушчоўская адліга. Але і па вяртаньні на бацькаўшчыну іх чакаў ціск з боку мясцовых уладаў, абмежаваньні ў правах і таўро на рэшту жыцьця - "антысаветчык".

Такая ж жорсткая расправа чакала і сябраў іншых моладзевых арганізацый, што дзейнічалі ў другой палове 40-х гг. у Заходняй Беларусі. Былі разгромленыя ***"Чайка"*** (ядро - на Слонімшчыне), ***Саюз вызваленьня Беларусі*** (Навагрудак), ***Лідзкая моладзевая арганізацыя***, ***Лебедзеўскае*** і ***Мядзельска-Смаргонскае антыкамуністычнае падпольле.***

## КАНЕЦ САВЕЦКАЙ ІМПЭРЫІ

Першай арганізацыяй у застойныя часы можна лічыць ***Беларускую сьпеўна-драматычную майстроўню***, створаную ў 1979 г. Майстроўню заснавалі студэнты БДУ і Тэатральна-мастацкага інстытуту, пазьней да іх далучыліся навучэнцы іншых ВНУ. Напачатку мэтай было адраджэньне ў гарадзкім асяродку беларускай народнай абраднасьці, сьвятаў. Сябры арганізацыі ладзілі народныя сьвяты - Каляды, Гуканьні вясны, Купальлі - у Менску, Вязынцы, Заслаўі, вывучалі народныя песьні ды ставілі спэктаклі ("Цар Максымільян"). Паралельна вывучаліся невядомыя старонкі гісторыі Беларусі, ладзіліся сьвяткаваньні ўгодкаў важных датаў зь гісторыі Беларусі, што былі забароненыя за савецкім часам, - БНР, дзень нараджэньня Івана Луцкевіча, вялікага князя Вітаўта. Вялікую ролю адыгралі талокі па рэстаўрацыі Траецкага прадмесьця ў Менску.

У 1983 г. пры Майстроўні было створанае ***Таварыства беларускай школы,*** якое ўзначаліў Віктар Івашкевіч. Сябры ТБШ агітавалі за адкрыцьцё беларускамоўных садкоў і школ, якіх не засталося ў сталіцы Беларусі.

Дзейнасьць Майстроўні прыпынілася ў 1984 г. 13 чэрвеня 1984 г. яе сябры выйшлі пратэставаць супраць зносу ў Менску помніка гісторыі - будынка былога гарадзкога тэатру (гэтак званага Дома Поляка), дзе ўпершыню была пастаўлена "Ідылія" Дуніна-Марцінкевіча. Дэманстранты былі затрыманыя, і супраць іх пачалося сьледзтва.

Пераемніцай "Майстроўні" можна лічыць ***"Талаку",*** якая была створаная ў верасьні 1985 г. як клюб аховы помнікаў (ля вытокаў стаялі Сяргей Вітушка, Віктар Івашкевіч, Вінцук Вячорка, Алесь Суша). Усяго "Талака" згуртавала каля 60 чалавек, якія займаліся рэстаўрацыйнымі працамі, археалягічнымі раскопкамі, змагаліся за беларускія школы і інш. Таксама сябры арганізацыі бралі ўдзел у некалькіх гучных акцыях: мітынгу ў абарону Верхняга гораду ў Менску, мітынгах у Курапатах, экалягічным "Дзьвінскім ральлі", паходзе "Прыпяць'88" і інш.

З пачаткам пераменаў у СССР дэмакратычныя арганізацыі пачалі расьці як грыбы пасьля дажджу. У Інстытуце культуры была створаная суполка "Зьніч", у Беларускім тэхналягічным інстытуце - "Сьвітанак", у пэдінстытуце - "Нашчадкі", у Горадні - клюб "Паходня", у Гомелі - "Талака", а таксама "Повязь" (Ворша), "Рунь" (Ліда), "Узгор'е" (Віцебск), "Край" (Берасьце) ды інш. У кастрычніку 1988 г. было створанае грамадзкае гісторыка-асьветніцкае таварыства памяці ахвяраў сталінізму ***Мартыралёг Беларусі*** і ***Беларускі народны фронт.*** А двума месяцамі раней, у жніўні 1988 г., для каардынацыі дзейнасьці ўсіх суполак і таварыстваў была арганізаваная ***Канфэдэрацыя беларускіх моладзевых суполак,*** рашэньне пра стварэньне якой было прынятае на Другім вальным сойме беларускіх суполак, што прайшоў у Менску.

Пачынаўся новы этап нацыянальнай гісторыі, які прывёў да набыцьця незалежнасьці.

# Ліквідацыя - час актывізацыі

## Магчымыя формы грамадзкай дзейнасьці ва ўмовах ліквідацыі грамадзкіх аб'яднаньняў

Юры Чавусаў,
юрыст Выканаўчага бюро
РГ Асамблеі НДА

**Ва ўмовах ліквідацыі шэрагу вядомых грамадзкіх аб'яднаньняў і забароны дзейнасьці незарэгістраваных NGO павялічваецца актуальнасьць пошуку новых шляхоў для працягу статутнай дзейнасьці. Адсутнасьць рэгістрацыі альбо ліквідацыя арганізацыі ня ёсьць непераадольнай перашкодай для ажыцьцяўленьня грамадзкай дзейнасьці. Беларускае заканадаўства дае дастаткова магчымасьцяў для рэалізацыі грамадзкай актыўнасьці і без фактычнага ўтварэньня няўрадавага аб'яднаньня. Падобная дзейнасьць можа адбывацца ў розных формах, кожная зь якіх мае свае перавагі і недахопы.**

### ПАЧАЦЬ УСЁ НАНОЎ

Найбольш відавочным выйсьцем для ліквідаванай арганізацыі было б **стварэньне новай арганізацыі**, спроба яшчэ раз пачаць усю справу з нуля. Пры гэтым новае ўтварэньне не абавязкова мусіць быць новым грамадзкім аб'яднаньнем - згодна зь дзеючым Грамадзянскім кодэксам, некамэрцыйная арганізацыя можа быць створаная таксама і ў выглядзе **фонду, установы, спажывецкага кааператыву.** Вядома, што некаторыя з пазбаўленых рэгістрацыі грамадзкіх аб'яднаньняў пайшлі па шляху стварэньня фондаў - гэтаму спрыяе адносна лібэральны парадак рэгістрацыі дадзенай катэгорыі юрыдычных асобаў. Прынамсі, пры такім варыянце дзеяньняў на шляху стварэньня новай арганізацыі ня трапіцца Камісія па рэгістрацыі (перарэгістрацыі) грамадзкіх аб'яднаньняў, што зараз фактычна выконвае функцыі палітычнай цэнзуры. Дзейнасьць у фармаце фонду альбо ўстановы дае магчымасьць адкрыць рахунак, выступаць суб'ектам грамадзянскіх адносінаў (заключаць дамовы, набываць маёмасьць, арэндаваць памяшканьне). У той жа час фонд пазбаўлены шэрагу правоў, якімі карыстаюцца грамадзкія аб'яднаньні - ня мае магчымасьці выступаць прадстаўніком грамадзкасьці ў судзе, абараняць правы сваіх сябраў і вылучаць назіральнікаў падчас выбараў.

Асаблівую ўвагу хацелася б зьвярнуць на магчымасьць дзеяньня праз **мясцовыя органы грамадзкага самакіраваньня**. Такія структуры, згодна з заканадаўствам, могуць мець статус некамэрцыйнай юрыдычнай асобы, якая рэгіструецца выканкамам альбо адміністрацыяй. Адначасова закон дазваляе ствараць структуры грамадзкага самакіраваньня і без утварэньня юрыдычнай асобы. Дзейнасьць у фармаце такіх структураў добра падыходзіць для невялікіх грамадзкіх аб'яднаньняў, якія працуюць на канкрэтнай мясцовасьці (квартал, некалькі дамоў, мікрараён) зь невялікай мясцовай грамадой.

Парадак утварэньня грамадзкіх органаў самакіраваньня і правядзеньня мясцовых сходаў вызначаецца Законам "Аб мясцовым кіраваньні і самакіраваньні". Таксама некаторымі гарвыканкамамі і гарсаветамі зацьверджаныя палажэньні аб парадку ўтварэньня органаў грамадзкага самакіраваньня (напрыклад, такое палажэньне ёсьць у Менску, Бабруйску, Берасьцейскай вобласьці). Калі ў дадзенай мясцовасьці адсутнічае орган мясцовага грамадзкага самакіраваньня, грамадзкім актывістам варта падумаць пра тое, каб стварыць і ўзначаліць яго.

### АД ІНІЦЫЯТЫВЫ ДА ТАВАРЫСТВА

Беларускае заканадаўства дае магчымасьць ажыцьцяўляць некаторыя віды грамадзкай дзейнасьці і без стварэньня ды рэгістрацыі грамадзкага аб'яднаньня альбо іншай формы некамэрцыйнай юрыдычнай асобы. Гаворка ідзе пра **грамадзянскія ініцыятывы** і **грамадзянскія кампаніі**, як адносна доўгатэрміновыя, так і кароткатэрміновыя альбо разавыя.

У апошнія гады грамадзянскія ініцыятывы і кампаніі сталі звыклай формай грамадзкай дзейнасьці ў Беларусі. За гэты час адбываліся як агульнанацыянальныя, шырока скіраваныя кампаніі ("Выбірай!", "Зробім лепш!", "Наша Салідарнасьць" і г. д.), так і кампаніі лякальныя ("За ўратаваньне мэмарыялу "Курапаты" ды інш.).

Нявызначанасьць паняцьця грамадзянскай ініцыятывы (кампаніі) у беларускім заканадаўстве дазваляе незарэгістраванаму грамадзкаму аб'яднаньню ладзіць свае стасункі з насельніцтвам пры дапамозе шэрагу грамадзянскіх кампаніяў. У беларускай практыцы ўжо вядомыя выпадкі, калі яны ладзіліся не супольнасьцю зарэгістраваных грамадзкіх аб'яднаньняў, а асобнай незарэгістраванай арганізацыяй (напрыклад, кампаніі "Беларусь у Эўропу" альбо "Права на альтэрнатыву"). Мінусам такой дзейнасьці зьяўляецца тое, што пры ажыцьцяўленьні падобнай кампаніі грамадзтва не ідэнтыфікуе дадзеную акцыю з пэўнай няўрадавай арганізацыяй. Але гэта можа быць пераадолена па-рознаму: напрыклад, шляхам пазначэньня таго, што сярод арганізатараў кампаніі была "моладзь зь ліквідаванай грамадзкай арганізацыі "X" альбо "былы старшыня грамадзкага аб'яднаньня "Y". Калі няўрадавая арганізацыя працуе з насельніцтвам у незарэгістраваным статусе, заўсёды існуе магчымасьць ідэнтыфікаваць сябе як "ініцыятыўная група па стварэньні грамадзкага аб'яднаньня "Z" - у дадзены момант арганізацыя, што "знаходзіцца ў працэсе рэгістрацыі" і мае пэўныя магчымасьці для некаторай публічнай дзейнасьці.




Усё больш і больш людзей абмінаюць Міністэрства юстыцыі

З практыкі правядзеньня грамадзянскіх кампаніяў у Беларусі вядома, што пры іх ажыцьцяўленьні паўстае значна меней перашкодаў з боку органаў улады, чым пры акцыях грамадзкіх аб'яднаньняў. Чыноўнікі на месцах больш адкрытыя ў дачыненьні да ініцыятываў, што ідэнтыфікуюцца з простымі фізычнымі асобамі. Да таго ж, органы юстыцыі такую дзейнасьць папросту не заўважаюць: для іх грамадзянскія кампаніі як суб'ект не існуюць. У гісторыі грамадзянскіх кампаніяў у Беларусі не было выпадкаў прыцягненьня іх удзельнікаў да адміністрацыйнай адказнасьці за выступленьне ад імя незарэгістраванага грамадзкага аб'яднаньня. Таксама нам невядомыя выпадкі прыцягненьня да адказнасьці зарэгістраваных грамадзкіх арганізацыяў (у форме пісьмовага папярэджаньня альбо ліквідацыі) за ўдзел у грамадзянскіх кампаніях.

Грамадзянскія кампаніі не зьяўляюцца юрыдычнай асобай, яны ня могуць быць вызначаныя ў межах грамадзянска-прававой тэрміналёгіі. У выпадку грамадзянскіх кампаніяў мы ня маем, уласна кажучы, "арганізацыі" з устойлівай структурай, апаратам, сыстэмай сяброўства, якая магла б валодаць маёмасьцю, заключаць дамовы і г.д. У гэтым заключаецца іх адрозьненьне ад грамадзкіх аб'-яднаньняў, што зьяўляюцца больш стабільнай формай ажыцьцяўленьня грамадзянскай актыўнасьці.

Нягледзячы на тое, што большасьць праведзеных раней у Беларусі грамадзянскіх кампаніяў мелі палітычную накіраванасьць, трэба адзначыць пасьпяховасьць менавіта іх сацыяльнага накірунку, пэрспэктыўнасьць гэтай формы грамадзкіх дзеяньняў для ажыцьцяўленьня статутнай дзейнасьці няўрадавых арганізацыяў. Менавіта ў такім фармаце могуць быць дасягнутыя мэты грамадзкіх аб'яднаньняў у сацыяльнай, экалягічнай, гісторыка-культурнай сфэрах. Але дзеля эфэктыўнасьці гэтай працы трэба адрозьніваць кампаніі, якія маюць палітычныя мэты, ад уласна грамадзянскіх кампаніяў.

Такі фармат грамадзкай дзейнасьці і іншыя супольныя дзеяньні грамадзянаў могуць быць легалізаваныя і фармалізаваныя ў межах, вызначаных арт. 54 Грамадзянскага кодэксу. У ім гаворка ідзе пра **дамову простага таварыства** (у іншай фармулёўцы - дамову аб сумеснай дзейнасьці). Зразумела, што пры заключэньні такой дамовы ўдзельнікі кампаніі губляюць некаторую свабоду, бо прымаюць на сябе пэўныя абавязкі. Але гэта

дазваляе дасягнуць большай дысцыплінаванасьці ўдзельнікаў кампаніі і пэўным чынам легалізаваць грамадзянскую кампанію. Заканадаўства не вызначае абавязковай формы для дамовы аб сумеснай дзейнасьці, а гэта значыць, што такая дамова можа быць заключаная як пісьмова, так і вусна.

Сутнасьць дамовы простага таварыства палягае ў тым, што дзьве альбо некалькі асобаў (таварышаў) абавязваюцца аб'яднаць свае рэсурсы (унёскі) і сумесна дзейнічаць без утварэньня юрыдычнай асобы для дасягненьня мэтаў, якія не супярэчаць заканадаўству. Бакамі такой дамовы могуць быць як некамэрцыйныя юрыдычныя асобы, так і асобныя грамадзяне, камэрцыйныя арганізацыі і нават дзяржаўныя прадпрыемствы і органы. Максымальная колькасьць удзельнікаў простага таварыства заканадаўствам не абмяжоўваецца.




**Сп.Харытон каля Менскага гарадзкога суда, дзе была была пазбаўленая рэгістрацыі грамадзкая арганізацыя**

Дамова простага таварыства набывае юрыдычную моц з моманту яе заключэньня і дзейнічае бестэрмінова. Таксама бакі дамовы могуць вызначыць і нейкі канкрэтны тэрмін дзеяньня дамовы, пазначыўшы дату, калі яна страчвае моц, альбо пазначыўшы падзею, пасьля якой простае таварыства спыняе дзейнасьць (напрыклад, дасягненьне мэты, дзеля якой утваралася таварыства).

Простае таварыства можа быць заключанае як публічна, так і негалосна. Публічнае простае таварыства дазваляе рабіць легальныя выступы ў прэсе ад імя грамадзянскай ініцыятывы, ідэнтыфікаваць сябе падчас працы з насельніцтвам.

Таварышы аб'ядноўваюць свае ўнёскі дзеля агульнай справы. Гэта значыць, што ўдзельнікі дамовы прадастаўляюць для дасягненьня заяўленай мэты свае наяўныя альбо безнаяўныя грошы, іншую маёмасьць, у тым ліку абсталяваньне, прафэсійныя і іншыя веды, здольнасьці, ноў-хаў, правы карыстаньня маёмасьцю, а таксама дзелавую рэпутацыю і сувязі, нават імя і грамадзкі аўтарытэт фізычнай альбо юрыдычнай асобы (карацей, усе аб'екты грамадзянскага абароту). У якасьці ўнёску можа быць прыняты і працоўны ўдзел самога таварыша, што дазваляе ўлічваць пры заключэньні дадзенай дамовы і валянтэрскую працу грамадзкіх актывістаў. Памер гэтых унёскаў прызнаецца роўным па вартасьці (без залежнасьці ад балянсавага кошту і без правядзеньня экспэртызы), калі бакі адмыслова ня вызначылі іншае. Можа быць распрацаваны мэханізм, калі нейкае зарэгістраванае грамадзкае аб'яднаньне ўкладае ў сумесную дзейнасьць сваё імя, а незарэгістраваны грамадзкі рух, прадстаўлены таварышамі - фізычнымі асобамі, укладае ў сумесную дзейнасьць сваю працу - такі фармат дзейнасьці будзе юрыдычна бездакорным.

Такім чынам вырашаецца таксама і праблема маёмаснай базы для грамадзкай дзейнасьці: у межах простага таварыства ўтвараецца агульная маёмасьць таварышаў, у тым ліку ёй можа быць і агульны прыбытак. Калі гаворка ідзе пра дамову простага таварыства некамэрцыйнага характару, то прыбытак, атрыманы ад сумеснай дзейнасьці ў межах дамовы, мусіць быць накіраваны на тыя ж самыя мэты. Адказнасьць падзяляецца паміж таварышамі ў долях, вызначаных дамовай, прычым гэтыя долі не абавязкова супадаюць з памерам унёскаў: магчымая сытуацыя, калі пры роўных першапачатковых унёсках таварышаў адказнасьць на іх ускладаецца ў розных прапорцыях. Карыстаньне агульнай маёмасьцю таварыства ажыцьцяўляецца па іх агульнай згодзе і можа быць даручанае аднаму з таварышаў.

Вядзеньне агульных справаў простага таварыства і прыняцьце рашэньняў ад імя таварыства можа быць даручанае аднаму ці некалькім таварышам альбо робіцца сумесна ўсімі таварышамі (у гэтым выпадку для кожнага дзеяньня альбо здзелкі патрабуецца згода ўсіх удзельнікаў таварыства). Калі ні першае, ні другое не прадугледжана дамовай, кожны ўдзельнік таварыства мае права дзейнічаць ад імя ўсіх таварышаў. Паўнамоцтвы таварыша на дзеяньні ад імя таварыства пацьвярджаюцца пісьмовай даверанасьцю,





якая выдаецца астатнімі таварышамі, альбо асобнікам дамовы таварыства, заключанай у пісьмовай форме.

### НЕЗАРЭГІСТРАВАНАЯ ДЗЕЙНАСЬЦЬ

Для ліквідаванай няўрадавай арганізацыі заўсёды застаецца магчымасьць працягваць сваю дзейнасьць **без утварэньня сталых альбо часовых структураў**, інакш кажучы, магчымасьць дзейнічаць як незарэгістраванае грамадзкае аб'яднаньне.

**МАГЧЫМЫЯ ФОРМЫ ГРАМАДЗКАЙ ДЗЕЙНАСЬЦІ ЛІКВІДАВАНЫХ ГРАМАДЗКІХ АБ'ЯДНАНЬНЯЎ:**

**- стварэньне новай арганізацыі (грамадзкага аб'яднаньня, фонду, установы, камітэту грамадзкага самакіраваньня);**

**- правядзеньне грамадзянскіх кампаніяў (ініцыятываў) рознага маштабу і скіраванасьці з магчымым заключэньнем дамоваў аб сумеснай дзейнасьці;**

**- ажыцьцяўленьне грамадзкай дзейнасьці грамадзянамі як фізычнымі асобамі.**

Згодна зь беларускім заканадаўствам, дзейнасьць незарэгістраваных грамадзкіх аб'яднаньняў забароненая. Зараз, згодна з арт. 167-10 дзеючага Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях, за дзейнасьць ад імя незарэгістраваных грамадзкіх аб'яднаньняў прадугледжваецца адміністрацыйная адказнасьць у выглядзе штрафу да 100 базавых адзінак альбо арышту на тэрмін да 15 сутак. Аднак у новым варыянце гэтага кодэксу (які ўжо прыняты Нацыянальным сходам і падпісаны прэзыдэнтам, але пакуль што ня ўведзены ў дзеяньне) аналягічная норма не прадугледжаная. У дадзены момант немагчыма сказаць, якім чынам будзе вызначацца адказнасьць за "незарэгістраваную" дзейнасьць няўрадавых арганізацыяў у будучыні. Калі ў новы Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэньнях ня будуць унесеныя адпаведныя зьмены, складзецца сытуацыя, калі дзейнасьць незарэгістраваных грамадзкіх аб'яднаньняў забароненая, але адказнасьць за такую дзейнасьць ня вызначаная.

Зразумела, што дзейнасьць без рэгістрацыі мае свае перавагі: грамадзкім актывістам ня трэба траціць час і рэсурсы на выкананьне шэрагу фармальнасьцяў, якія ўтрымліваюцца ў патрабаваньнях дзяржаўных органаў (напрыклад, ня трэба сачыць за справаводзтвам, няма рызыкі атрымаць папярэджаньне за парушэньне правілаў яго вядзеньня). Па-сутнасьці, у гэтым выпадку грамадзянская дзейнасьць цалкам выводзіцца з-пад кантролю дзяржавы. Можна казаць пра тое, што пры належным афармленьні маёмасьці незарэгістраванай арганізацыі такая маёмасьць таксама не падлягае кантролю з боку дзяржавы. Карацей кажучы, у незарэгістраваным фармаце дзейнасьці значна памяншаецца рызыка прыцягненьня да адказнасьці сябраў і кіраўнікоў незарэгістраванай арганізацыі. Калі юрыдычна арганізацыі няма, санкцыі могуць быць ужытыя толькі ў адносінах да фізычных асобаў, а фізычныя асобы, па нашым заканадаўстве, усё ж такі значна больш абароненыя ад ціску дзяржавы.

Прававой філязофіяй грамадзкай дзейнасьці без утварэньня адмысловых структураў мусіць быць наступная тэза: **практычна ўсё тое, што мае права рабіць грамадзкае аб'яднаньне, можа рабіць і кожны грамадзянін.** Болей за тое, грамадзянін (як адзінаасобна, так і разам зь іншымі грамадзянамі) валодае значна большым полем правоў. А для дзяржаўных органаў нашмат складаней парушыць правы грамадзяніна, чым грамадзкага аб'яднаньня - усё ж такі ў нашым грамадзтве дзейнічаюць пэўныя гарантыі індывідуальных свабодаў.

Такім чынам, мы можам вызначыць **тры магчымыя формы** ажыцьцяўленьня **дзейнасьці** прымусова ліквідаванага і пазбаўленага рэгістрацыі грамадзкага аб'яднаньня: **спроба рэгістрацыі новай юрыдычнай асобы некамэрцыйнага характару; дзейнасьць у межах грамадзянскіх ініцыятываў і кампаніяў** (з магчымым афармленьнем простага таварыства); **вядзеньне дзейнасьці сябрамі арганізацыі як фізычнымі асобамі ў незарэгістраваным аб'яднаньні**. Гэтае падзяленьне на формы ня ёсьць абсалютным. Зразумела, што гэтыя формы дзеяньняў сумяшчаюцца ў межах адной арганізацыі, яны павінны дапаўняць адна адну.

Ва ўмовах, калі дзяржаўная ўлада не ідзе на кантакт са структурамі грамадзянскай супольнасьці і аказвае ціск на няўрадавыя арганізацыі, для грамадзкіх актывістаў не застаецца нічога іншага, як зьвярнуцца да грамадзтва. Па-сапраўднаму працаваць зь беларускім народам, рабіць сваю працу, быць актыўным і не азірацца на чыноўнікаў - вось прынцып грамадзкай дзейнасьці ва ўмовах дэлегалізацыі няўрадавых арганізацыяў. Так было напрыканцы 1980-х, калі пашыраліся "нефармальныя суполкі" - праобраз сучасных НДА, - так будзе і зараз.

Ёсьць падставы спадзявацца: той ціск, што аказваецца на няўрадавыя арганізацыі, кампанія ліквідацыяў, якую мы назіраем зараз, не пашкодзяць трэцяму сэктару, не загоняць яго ў падпольле. Наадварот, існуючыя перашкоды могуць вывесьці грамадзкі рух на новую ступень разьвіцьця, калі загартаваныя ліквідацыямі і аб'яднаныя нелегальным (у вачах дзяржаўнай улады) статусам актывісты будуць вымушаныя ісьці да насельніцтва, рабіць працу супольна, а не замыкацца па-ранейшаму ў сваіх аднаасобных праектах. Магчыма, нефармальны характар такой працы прывядзе да новых посьпехаў аднаўленага трэцяга сэктару.

# Дэкрэт №8 заменены на больш жорсткі

У лістападзе зьявіўся новы Дэкрэт прэзыдэнта, які зьмяняе парадак атрыманьня замежнай бязвыплатнай дапамогі. За яго парушэньне грамадзкія аб'яднаньні і палітычныя партыі, фонды і прадстаўніцтвы замежных арганізацыяў могуць быць ліквідаваныя, а замежныя грамадзяне - дэпартаваныя.

28 лістапада 2003 году прэзыдэнт Беларусі падпісаў Дэкрэт №24 "Аб атрыманьні і выкарыстаньні замежнай бязвыплатнай дапамогі". Гэтым Дэкрэтам зьмяняецца парадак атрыманьня юрыдычнымі і фізычнымі асобамі Рэспублікі Беларусь замежнай дапамогі ў выглядзе фінансаваньня праграмаў і праектаў, прадастаўленьня ва ўласнасьць альбо ў карыстаньне абсталяваньня і іншай маёмасьці.

Новы Дэкрэт істотна пашырае паўнамоцтвы Упраўленьня справамі прэзыдэнта ў галіне кантролю за прадастаўленьнем і выкарыстаньнем замежнай бязвыплатнай дапамогі, прадастаўленьня мытных і падатковых ільготаў для асобных праектаў, вызначэньня мінімальнага памеру дапамогі, які не падлягае рэгістрацыі. Адначасова асноўным органам, які мусіць кіраваць працэсам атрыманьня замежнай бязвыплатнай дапамогі, застаецца Дэпартамэнт па гуманітарнай дзейнасьці Упраўленьня справамі прэзыдэнта. Гэты орган выдае пасьведчаньне аб рэгістрацыі замежнай бязвыплатнай дапамогі і валодае іншымі паўнамоцтвамі.

Згодна з дэкрэтам, парадак рэгістрацыі замежнай бязвыплатнай дапамогі мусіць быць урэгуляваны Упраўленьнем справамі прэзыдэнта. Гэта значыць, што замест дзеючай інструкцыі, зацьверджанай дырэктарам Дэпартамэнту па гуманітарнай дзейнасьці, хутка - на працягу двух месяцаў - зьявіцца новы падзаконны акт пра рэгістрацыю і выкарыстаньне замежнай бязвыплатнай дапамогі.

Пункт 4 Дэкрэту вызначае накірункі дзейнасьці, на якія можа быць выкарыстаная замежная бязвыплатная дапамога. Гэты сьпіс адкрыты, але адзначаецца, што выкарыстаньне замежнай бязвыплатнай дапамогі на іншыя мэты ажыцьцяўляецца па ўзгадненьні з прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь. Сьпіс відаў дзейнасьці, на якія забароненае выкарыстаньне замежнай бязвыплатнай дапамогі, дапоўнены рознымі формамі палітычнай працы з насельніцтвам (у Дэкрэце №8 гэта была толькі агітацыйна-масавая дзейнасьць).

Як адзначае прэс-служба Адміністрацыі прэзыдэнта, Дэкрэт накіраваны на "забесьпячэньне максымальнай празрыстасьці" ў справе выкарыстаньня замежнай бязвыплатнай дапамогі і яе мэтавага выкарыстаньня. Для гэтага ўстанаўліваецца шчыльны кантроль за працэсам прадастаўленьня замежнай бязвыплатнай дапамогі з боку дзяржаўных органаў - Упраўленьня справамі прэзыдэнта, Камітэту дзяржаўнага кантролю, Камітэту дзяржаўнай бясьпекі, Міністэрства па падатках і зборах і інш. Парадак ажыцьцяўленьня кантролю за прадастаўленьнем і выкарыстаньнем замежнай бязвыплатнай дапамогі вызначаны Ўказам №537, які таксама зацьверджаны прэзыдэнтам 28 лістапада 2003 году.

Новы дэкрэт вызначае санкцыі, якія ўжываюцца супраць фізычных і юрыдычных асобаў за парушэньне ўстаноўленага дэкрэтам парадку. Разам з адміністрацыйнай адказнасьцю фізычных асобаў і эканамічнай адказнасьцю юрыдычных асобаў Дэкрэт прадугледжвае ліквідацыю палітычных партыяў, прафэсійных саюзаў, фондаў, грамадзкіх аб'яднаньняў і іх арганізацыйных структураў, прадстаўніцтваў замежных арганізацыяў нават за аднаразовае парушэньне парадку выкарыстаньня замежнай бязвыплатнай дапамогі. У адносінах да замежных грамадзянаў, што парушылі ўстаноўлены Дэкрэтам парадак, ужываецца дэпартацыя за межы Рэспублікі Беларусь.

Дзеяньне новага дэкрэту не распаўсюджваецца на праграмы міжнароднай тэхнічнай дапамогі і іншыя віды замежнай дапамогі, што ажыцьцяўляюцца са згоды прэзыдэнта альбо ў адпаведнасьці з ухваленымі Беларусьсю міжнароднымі дамовамі. На гэтыя віды падтрымкі (кшталту праграмаў "TACIC", "Каўнтэрпарт", Праграмы разьвіцьця малога і сярэдняга бізнэсу, што ажыцьцяўляецца Міжнароднай фінансавай карпарацыяй, і некаторыя іншыя віды падрымкі) распаўсюджваецца парадак, які быў нядаўна ўрэгуляваны Ўказам ад 22 кастрычніка 2003 году №460 "Аб міжнароднай тэхнічнай дапамозе, што прадастаўляецца Рэспубліцы Беларусь".

Такім чынам, новыя нарматыўна-прававыя акты пакідаюць бязь зьменаў саму канцэпцыю выкарыстаньня замежнай бязвыплатнай дапамогі ў Рэспубліцы Беларусь, але робяць больш жорсткім кантроль за гэтым працэсам і ўстанаўліваюць больш жорсткія санкцыі супраць парушальнікаў устаноўленага парадку выкарыстаньня замежнай бязвыплатнай дапамогі.

**Юры Чавусаў**





### СЭМІНАР "WORKING WITH CONFLICT" ("ПРАЦА З КАНФЛІКТАМ")

Дата правядзеньня: 19 красавіка - 25 чэрвеня 2004 г.
Месца правядзеньня: Бірмінгем, Вялікабрытанія.
Прыймальнасьць: людзі, праца якіх накіраваная на аднаўленьне міру ў сытуацыях нестабільнасьці альбо канфлікту.
Дадатковая інфармацыя:
1046 Bristol Road
Birmingham, B29 6LJ UK
Tel: +44 (0) 121-415 5641 Fax: +44 (0) 121-415 4119
http://www.respond.org/wwc.html
enquiries@respond.org

### 25TH INTERNATIONAL HUMAN RIGHTS TRAINING PROGRAM (IHRTP; 25-Я ТРЭНІНГАВАЯ МІЖНАРОДНАЯ ПРАГРАМА ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА)

Апошні тэрмін падачы заяўкі: 28 студзеня 2004 году.
Арганізацыя: The Canadian Human Rights Foundation (CHRF).
Дата правядзеньня: 13 чэрвеня - 2 ліпеня 2004 году.
Месца правядзеньня: Квэбэк, Канада.
Прыймальнасьць: супрацоўнікі няўрадавых альбо грамадзкіх арганізацыяў.
Апісаньне: мэта праграмы - павысіць магчымасьці арганізацыяў, якія займаюцца правамі чалавека.
Дадатковая інфармацыя:
Canadian Human Rights Foundation
1425 Renevesque Blvd West, Suite 407
Montreal, Quebec Canada H3G 1T7
Telephone: (514) 954-0382=09
Fax : (514) 954-0659=09
Email: IHRTP@chrf.ca
http://www.chrf.ca

### КОНКУРС МАЛЫХ ГРАНТАЎ УСХОДНЕЭЎРАПЕЙСКАГА ДЭМАКРАТЫЧНАГА ЦЭНТРУ (EEDC) IDEE ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ НЯЎРАДАВЫХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ

Усходнеэўрапейскі дэмакратычны цэнтар (Варшава, Польшча) мае гонар абвясьціць малы грантавы конкурс для беларускіх няўрадавых арганізацыяў. Мэтай конкурсу зьяўляецца падтрымка беларускіх моладзевых арганізацыяў, а таксама арганізацыяў, дзейнасьць якіх скіраваная на моладзь, якія імкнуцца да пабудовы грамадзянскай супольнасьці на лякальным і рэгіянальным узроўні. Конкурс таксама мае задачу заахвоціць арганізацыі да супрацоўніцтва і партнэрства. Узорныя праекты мусяць быць адрасаваныя да моладзі, якая раней не была грамадзка актыўнай альбо заангажаванай, і павінны быць рэалізаваныя праз дзьве альбо больш арганізацыяў на ўзроўні аднаго рэгіёну (вобласьці).

**Праект павінен:** — быць скіраваным на вырашэньне рэгіянальных праблемаў - дэманстраваць веданьне і разуменьне мясцовых праблемаў;
— быць актыўным і інтэрактыўным па форме (праекты, сутнасьцю якіх будуць выключна сэмінары і круглыя сталы, ня будуць разглядацца);
— дэманстраваць веданьне іншых арганізацыяў рэгіёну, іх дзейнасьці, плянаў і працы ў рэгіёне;
— дэманстраваць разуменьне доўгатэрміновых вынікаў заплянаванай у праекце дзейнасьці і прапаноўваць наступныя захады (безь фінансаваньня з боку нашай фундацыі);
— імкнуцца да знаходжаньня новых сябраў - як для самой арганізацыі, так і для дэмакратычнага руху ўвогуле.

Праекты мусяць пачацца не пазьней за 1 лютага 2004 году і скончыцца не пазьней за 31 кастрычніка 2004 году. Гранты не перавышаюць $500 і будуць выдзеленыя ў дзьвюх частках.

Заяўка мусіць быць складзеная ад імя як мінімум адной зарэгістраванай арганізацыі (што не выключае рэалізацыю праекту праз групу арганізацыяў, у тым ліку незарэгістраваных). У такім выпадку роля партнэраў у праекце і іх адказнасьць павінны быць выразна акрэсьленыя, а лісты падтрымкі (згоды) мусяць быць далучаныя да праекту. EEDC мусяць быць праінфармаваныя і запрошаныя на акцыі, імпрэзы і г.д., якія будуць рэалізоўвацца ў межах падтрыманых праектаў.

**Заяўка павінна ўтрымліваць:** — кантактную інфармацыю (імя, прозьвішча адказнай асобы, адрас, тэлефон, мэйл і г.д.);
— назву праекту, мэтавую групу (прынцыпы адбору ўдзельнікаў ці спосабаў/каналаў камунікацыі з мэтавай групай), графік;
— апісаньне праблемы - ня болей за 500 словаў;
— апісаньне дзейнасьці;
— чаканыя вынікі;
— апісаньне папярэдняй дзейнасьці (рэалізаваныя праекты, партнэры, грантадаўцы і г.д.) - ня болей за 1 старонку;
— трохгадовы плян дзейнасьці арганізацыі і апісаньне таго, як пададзены да разгляду праект зьвязаны з гэтым плянам - ня больш за адну старонку;
— графік дзейнасьці (што, калі, дзе, колькасьць удзельнікаў, якая з арганізацыяў-партнэраў за якое мерапрыемства адказвае);
— падрабязныя кошты ў амэрыканскіх далярах (адміністрацыйныя кошты - тэлефон, ганарар каардынатара, арэнда офіса і г.д. - не павінны перавышаць 10% ад усяго бюджэту).

Заяўкі трэба даслаць не пазьней 17-00 12 сьнежня 2003 году поштай, факсам (8-10-48-22-828 03 89), электроннай поштай (eedc@eedc.org.by) ці даставіць асабіста. Заяўка можа быць складзеная на адной з наступных моваў: беларускай, польскай, ангельскай, расейскай.

Заяўкі, пададзеныя пасьля заканчэньня тэрміну альбо іншым, чым апісаныя вышэй, спосабам, разглядацца ня будуць.

# Сэзон даведнікаў ня скончыўся




**ГА БАЖ**
**СМІ і прэс-службы: Беларусь 2003**
**Менск, Мэдысонт, 2003, 127 с.**
**Укладальнік Ілона Урбановіч-Саўка**

Ня першы раз рэцэнзую для "Асамблеі" даведнікі, якія зьявіліся сёлета. Як аказалася, "сэзон" на гэтую сапраўды папулярную ў наш час літаратуру ня скончыўся, і я трымаю ў руцэ яшчэ адзін даведнік - "**СМІ і прэс-службы: Беларусь 2003**". Яго падрыхтавала Ілона Урбановіч-Саўка ў рамках праграмы "Умацаваньне дэмакратычных мэдыяў у Беларусі", якую рэалізуе Беларуская асацыяцыя журналістаў.

Усе гэтыя даведнікі чамусьці вельмі падобныя адзін да аднаго, у першую чаргу аб'ёмам - трохі болей за 100 старонак. Але параўнаньне, напрыклад, з "каўнтэрпартаўскім" даведнікам прэсы на гэтым у прынцыпе і заканчваецца. У адрозьненьне ад вышэйзгаданага даведніка, як і ад многіх іншых "трэцясэктарных" кніжачак, асноўным адрасатам якіх зьяўляецца донар, а ў лепшым выпадку яшчэ і некалькі сваякоў ды знаёмых аўтара, гэтая кніжка разьлічаная менавіта **на чытача.** Дакладней - на таго, каму неабходна наладжваць сувязі з прэсай - у НДА, у палітычнай партыі ці ў камэрцыйнай структуры.

Сама пра сябе ў кароткай прадмове кніжка заяўляе так:

*"У даведніку сабраныя асноўныя зьвесткі пра актуальныя зарэгістраваныя інфармацыйныя мэдыі (news media), якія асьвятляюць грамадзка значныя зьявы, і дзяржаўныя інфармацыйныя службы, якія могуць быць крыніцай інфармацыі пра такія зьявы і ўплываць на фармаваньне інфармацыйнай прасторы".*

Даведнік падзелены на наступныя разьдзелы: "газэты", "часопісы", "інфармацыйныя агенцтвы", "тэлебачаньне й радыё", "замежныя мэдыі", "прэс-цэнтры і прэс-службы", "журналісцкія арганізацыі". "Газэты" маюць яшчэ й свой асобны геаграфічны паказальнік, каб лягчэй было арыентавацца ў гэтым, самым вялікім разьдзеле кнігі. Інфармацыйныя артыкулы ўтрымліваюць зьвесткі пра назву, аб'ём, пэрыядычнасьць, галоўнага рэдактара і заснавальніка выданьняў, а самае галоўнае - пра ўсе магчымыя каналы сувязі (адрасы, тэлефоны, электронную пошту), што робіць кніжку карысным практычным дапаможнікам.

Зразумела, адзначаючы плюсы выданьня, варта зьвярнуць увагу і на мінусы, безь якіх, напэўна, не бывае нічога ў нашым жыцьці. Магчыма, асноўны недахоп "СМІ і прэс-службаў" - гэта не зусім карэктны крытэрый адбору аб'ектаў даведніка. На самой справе, аб'ектыўнасьць ацэнкі *"ўплыву на інфармацыйную прастору"* выклікае пэўныя пытаньні. Чаму, напрыклад, газэта "Восьмушка" *"для диванного чтения"* альбо "Газета віцебскай міліцыі" *"ўплываюць"* на інфармацыйную прастору, а, скажам, часопіс "ARCHE" - *"не ўплывае"?*

Таксама трохі "рыпяць" на воку дзікаватыя, саматужныя вёрстка і афармленьне кнігі. Падзагаловак кшталту "iv-a. НДТРК" здольны ўвесьці нармальнага чытача ў ступар. Прапаную ўгадаць, што гэта азначае.

Шчыра параіў бы складальнікам і выдаўцам даведніка папрацаваць яшчэ трохі над прынцыпамі яго ўкладаньня, удасканаліць вёрстку, магчыма, дапоўніць некаторыя разьдзелы. Напрыклад, чаму ў даведніку зьмешчаныя толькі дзяржаўныя прэс-службы? А дзе прэс-службы зарэгістраваных партыяў ці грамадзкіх арганізацыяў? Можа, факт унясеньня ў даведнік падштурхнуў бы некаторыя арганізацыі разьвіваць свае прэсавыя аддзелы і кантакты з мэдыямі? І, нарэшце, хацелася б спадзявацца, што такі даведнік будзе пэрыядычным - прынамсі, штогадовым. Ён, на маю думку, трывала зойме "нішу" практычнага даведніка па мэдыях для прэссакратара, якая дагэтуль яшчэ амаль пустуе.

А грамадзкім ды іншым арганізацыям гэтак жа шчыра параіў бы набыць "СМІ і прэс-службы". Упэўнены - спатрэбіцца.

**Людвік Бэра**